# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

9 верасня 2016 года №37 **(1115)**









## Маладзечаншчына:
# сёлета больш за палову шлюбаў РАСПАДАЕЦЦА

старонкі **20-21**

Фота formulalubvi.com.




Паэт Віктар Кажура з Вілейкі піша кнігу разам з Францішкам Скарынам.




Кастусь Цыбульскі і Уладзімір Цанунін абмяркоўваюць дэталі выступлення.

# На адкрыцці свята пісьменства гучала песня нашага земляка

**Ведаеце, як звязаны з нашым рэгіёнам горад Рагачоў на Гомельшчыне?**

4 верасня там адбыўся рэспубліканскі Дзень беларускага пісьменства. З месца падзей – Аксана Ярашонак.

На адкрыцці свята рыцары і дамы ў шляхетных строях вынеслі гербы 23 гарадоў, у якіх праходзіла свята ў розныя гады. У гэтым шэрагу быў і герб Смаргоні. Тут рэспубліканскі Дзень пісьменства адзначылі ў 2009 годзе.

Для гасцей зладзілі выставы "Сучасная беларуская кніга", "Прэса Беларусі", "Мастацтва кнігі", "Добрую кнігу – дзецям". Арганізавалі сустрэчы з пісьменнікамі, канцэрты. Працаваў сапраўдны друкарскі двор 16 стагоддзя. І ўсюды была прадстаўленая творчасць нашых землякоў.

Паэтка **Іна Фралова** вяла літаратурную імпрэзу на пляцоўцы "Слова пісьменніка". "Я – шыпкоўская," – заўсёды кажа жанчына на сустрэчах з чытачамі.

Хоць нарадзілася яна ў сталіцы, сваёй радзімай лічыць вёску Шыпкі на Вілейшчыне. Тут Іна Фралова гадавалася ў бабулі з дзядулем. Тут пазнаёмілася з паэтам **Міколам Шабовічам**. Ён працаваў тады ў мясцовай школе настаўнікам беларускай мовы. Шыпкоўскія краявіды натхнілі жанчыну на першыя вершаваныя радкі. Сёння ў Шыпках лецішча паэткі.

На свяце пісьменства яна прэзентавала ўласную кнігу "Белы бераг". Прагучалі вершы, прысвечаныя родным Шыпкам.

### Вілейка і Валожын – на свяце пісьменства

Свае творы на святочных пляцоўках чыталі **Віктар Кажура** з Вілейкі і **Валянціна Гіруць-Русакевіч** з Валожына. Пісьменніца ўжо неаднойчы ўдзельнічала ў рэспубліканскім свяце пісьменства. Кажа, ёсць з чым параўнаць, бо была ў мінулыя гады, і ў Заслаўі, і ў Шчучыне.

– Шмат цікавых пляцовак. Усюды нешта адбываецца. Людзі радуюцца, што ў іх горадзе праходзіць такое значнае свята. Асабліва спадабаліся прэзентацыі новых кніг, – падзялілася Валянціна Гіруць-Русакевіч. – Шкадую толькі пра тое, што так і не змагла абысці ўсе пляцоўкі.

У сваіх творах прадставіла родную Вілейку **Бажэна Ганушкіна** (Мацюк). Былая вучаніца Віктара Кажуры цяпер працуе настаўніцай роднай мовы і літаратуры ў сталічнай гімназіі. А яшчэ яна паэтка, спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Не першы раз у рэспубліканскім свяце ўдзельнічаў паэт і бард віляйчанін **Уладзімір Цанунін**. Ён парадаваў гледачоў уласнымі вершамі і песнямі пад гітару на прэзентацыі кнігі паэта **Уладзіслава Цыдзіка**. А таксама паспеў сустрэцца са сваімі былымі аднагрупнікамі, якія жывуць у Рагачове.

Арганізатары не забыліся далучыць да літаратуры і маленькіх удзельнікаў свята. Для іх супрацоўнікі выдавецтва "Мастацкая літаратура" зладзілі віктарыну з цікавымі пытаннямі і карыснымі прызамі.

А адбылося ўсё пад чуйным кіраўніцтвам галоўнага рэдактара выдавецтва, пісьменніка, нашага земляка з Валожыншчыны **Віктара Шніпа**.

Пісьменнік распавёў, што для яго Рагачоў – гэта, перш за ўсё, месца, дзе нараджаліся творы незабыўнага **Уладзіміра Караткевіча**. Прыязджаючы да дзядзькі, Караткевіч пісаў тут вершы, аповесць "Ладдзя Роспачы", пачатак рамана "Каласы пад сярпом тваім".

Віктар Шніп наведаў рагачоўскі музей. З усіх экспанатаў, прызнаўся пісьменнік, асабліва ўразіў вялікі старадаўні човен. Дасканалы, як творы Караткевіча.

– Дзякуючы святкаванням Дня беларускага пісьменства я маю магчымасць выбірацца з дому за сотні кіламетраў і бачыць Беларусь такой, якой яна ёсць на самой справе. А Беларусь наша прыгожая і людзі працавітыя! – падзяліўся сваімі ўражаннямі Віктар Шніп.

### Літаратурная прэмія за лепшы паэтычны твор "паехала" ў Смаргонь

У межах свята заўсёды ўручаюць Нацыянальную літаратурную прэмію за лепшы паэтычны, празаічны і літаратуразнаўчы твор. І сёлета ў нашага рэгіёна ёсць падстава для гонару.

Прэмію за лепшы паэтычны твор атрымаў **Мар'ян Дукса**. Яго ўзнагародзілі за зборнік вершаў "Птушка вечнасці – душа". Паэт нарадзіўся на Мядзельшчыне, а цяпер жыве ў Солах Смаргонскага раёна.

З экрана на галоўнай сцэне літаратурныя эксперты – навукоўцы, пісьменнікі, выдаўцы – раілі маладым людзям чытаць вершы **Янкі Купалы**, п'есы **Дуніна-Марцінкевіча**.

А дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея **Уладзімір Пракапцоў** пажадаў кожнаму беларусу мець на кніжнай паліцы зборнік вершаў "Вянок" Максіма Багдановіча. Нагадаем, што паэту ў свой час даваў натхненне фальварак Ракуцёўшчына на Маладзечаншчыне.

### Гісторыя касцюма ад Кастуся Цыбульскага

На галоўнай сцэне свята спяваў ураджэнец Маладзечаншчыны **Кастусь Цыбульскі**. А ўдзячныя гледачы адзначалі і моцны голас, і прыгожы касцюм нашага земляка.

– Сцэнічнаму вобразу надаю асаблівае значэнне, – прызнаўся пасля спявак. – Калі ты ўжо выходзіш на сцэну, то павінны быць яркім, запамінальным для гледача.

Касцюм Кастуся Цыбульскага мае асаблівую гісторыю. Мужчына расказаў, што на апошнім фестывалі песні і паэзіі ў Маладзечне звярнуў увагу на аднаго спевака. У яго была вельмі прыгожая сцэнічная вопратка. Пасля выступлення Кастусь Цыбульскі запытаўся, адкуль такі касцюм. Аказалася, што вопратку для сцэны спеваку шые яго маці.

Паэт звярнуўся да жанчыны з просьбай пашыць касцюм, і яна пагадзілася. Пасля даслаў ёй свае памеры і праз некаторы час атрымаў тое, што жадаў. Не было нават ніводнай прымеркі.

Песню "Я жадаю вам, жадаю" на словы Кастуся Цыбульскага на адкрыцці свята праспяваў **Анатоль Ярмоленка**.

На шматлікіх кніжных выставах побач з творамі іншых беларускіх пісьменнікаў можна было пагартаць і набыць кнігі нашых землякоў: Віктара Шніпа, Міколы Шабовіча, **Ніны Рыбік**, **Адама Мальдзіса**, Мар'яна Дуксы.

Своеасабліва "папрысутнічаць" на свяце змог і **Уладзімір Някляеў**. Юныя спявачкі з сямейнай студыі "Lemari" падарылі ўсім песню "Родны горад" на словы паэта са Смаргоншчыны.

Дзяўчынкі расказалі, што ў іх рэпертуары шмат песень на беларускай мове. Аднак "Родны горад" адна з самых любімых і ў іх, і ў публікі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Пабудуюць восем шматкватэрных дамоў

МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета пачнуць будаваць яшчэ адзін – па вуліцы 17 Верасня. Пра гэта "РГ" расказаў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Вадзім Цар.**

– Калі дазволіць фінансаванне, то дзевяціпавярховы дом, што будуецца па Вялікім Гасцінцы побач з гандлёва-эканамічным каледжам, мы здадзім ужо сёлета. Самы апошні тэрмін – студзень 2017 года.

На вуліцы 17 Верасня гэтай восенню пачне працаваць будаўнічая тэхніка, каб у 2017 годзе тут вырас 54-кватэрны 9-цідавярховы жылы дом.

Дамы па вуліцы Снежнай сёлета ўжо дачакаліся сваіх гаспадароў.

Тры дамы здалі ў эксплуатацыю, і першыя жыхары, у тым ліку тыя сем'і, якія стаялі на чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, адзначылі наваселле.

Яшчэ адну пяціпавярхоўку здадуць 30 верасня.

На наступны год плануюць будаўніцтва пяці дамоў па вуліцы Спаскай і Машэрава.

– Яшчэ як мінімум два дамы будуць будавацца па дзяржзаказе. Дамы тыпавыя, таму, калі праекты ўзгодняць, можна будзе хутка прыступіць да будаўніцтва, – кажа Вадзім Цар.

Новабудоўлі вырастуць у 10-м і 11-м мікрараёнах. У 11-м мікрараёне пабудуюць яшчэ адну пяціпавярхоўку, у 10-м – 9-павярховы дом.

Не варта забывацца пра тое, што запланаванае будаўніцтва дамоў прыватнымі арганізацыямі.

Адзін з такіх дамоў будуюць па Вялікім Гасцінцы, у 11-м мікрараёне.

Наталля ТУР.


Фота Настассі РОЎДЫ

Дом, што будуецца па Вялікім Гасцінцы, плануюць здаць да пачатку 2017 года. І працы вечарам тут весціся не будуць.

## Пасля публікацыі

15 ліпеня ў "Рэгіянальнай газеце" быў надрукаваны матэрыял: "Дайце нам цішыню!" – просяць жыхары дома па Вялікім Гасцінцы.

Жанчына, якая жыве ў доме па суседстве, скардзілася на тое, што будоўля ідзе і днём, і ноччу, у будныя дні і выхадныя, што жыхарам перашкаджае шум. Прасіла дапамагчы вырашыць гэту праблему.

"Рэгіянальная газета" атрымала адказ ад аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама.

У лісце гаворыцца, што арганізацыя "Забудова-буд" адкарэктавала графік правядзення работ і ад 8 гадзін вечара да 7 раніцы работы на будаўніцтве дома весціся не будуць.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.09 | 8.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9605 | **1,9536** |
| Еўра | 2,1851 | **2,1962** |
| Злоты, 10 | 5,0393 | **5,0459** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0154 | **3,0259** |
| Грыўня, 100 | 7,6164 | **7,3043** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 7.09** | | |
| Еўра | 2.1700/2.1900 | **2.1800/2.2000** |
| Долар ЗША | 1.9450/1.9620 | **1.9400/1.9630** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 31.08 | | 7.09 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 120 000 | 12,00 | 120 000 | 12,00 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | 0,69 | 6500 | 0,65 |
| Часнок, 1 кг | 64 900 | 6,49 | 63500 | 6,35 |
| Капуста, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 5500 | 0,55 |
| Морква, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 4900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 11 500 | 1,15 | 12900 | 1,29 |
| Лімоны, 1 кг | 56 500 | 5,65 | 53000 | 5,30 |
| Апельсіны, 1 кг | 26 500 | 2,65 | 28500 | 2,85 |
| Мандарыны, 1 кг | 24 900 | 2, 49 | 24900 | 2,49 |
| Нектарыны, 1 кг | 34 900 | 3, 49 | 24900 | 2,49 |
| Ківі, 1 кг | 38 500 | 3,85 | 37000 | 3,70 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 7 500 | 0,75 | 6500 | 0,65 |
| Агуркі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 11500 | 1,15 |
| Перац, 1 кг | 10 500 | 1,05 | 10900 | 1,09 |
| Кавун, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5000 | 0,50 |
| Дыня, 1 кг | 12 000 | 1 ,20 | 12000 | 1,20 |
| Кабачок, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 33 000 | 3,30 | 30000 | 3,00 |
| Бананы, 1 кг | 21 500 | 2,15 | 20900 | 2,09 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 10900 | 1,09 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19 500 | 1,95 | 25000 | 2,50 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

ВЫБАРЫ - 2016

## Хто прэтэндуе на дэпутацкае крэсла?

11 верасня – асноўны дзень галасавання на выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Выбарчыя ўчасткі ў гэты дзень будуць адкрытыя з 8:00 да 20:00. Публікуем спісы кандыдатаў, чые імёны ўнесеныя ў бюлетэні на выбарчых участках у нашым рэгіёне.

### Маладзечанская гарадская акруга №72:

**Валынец Міхаіл Лявонцевіч**, 1974 г.н., вартаўнік філіяла Упраўлення вытворча-тэхналагічнай камплектацыі ААТ "Мінскпрамбуд", беспартыйны.

**Жыбуртовіч Віталь Раманавіч**, 1979 г.н., апературат станкоў з праграмным кіраваннем ЗАТ "Амкадор-Унікаб", член АГП.

**Канановіч Людміла Мікалаеўна**, 1966 г.н., намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама, беспартыйная.

**Яхімовіч Алег Пятровіч**, 1952 г.н., член партыі БНФ.

### Маладзечанская сельская акруга №73:

**Аноп Лідзія Іванаўна**, 1971 г.н., галоўны эканаміст сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Хажоваагра-2009", беспартыйная.

**Маркевіч Іван Станіслававіч**, 1966 г.н., кіраўнік спраў Мінаблвыканкама, беспартыйны.

**Смаляк Уладзімір Якаўлевіч**, 1946 г.н., пенсіянер, член АГП.

### Вілейская акруга №74:

**Жыбуль Наталля Пятроўна**, 1975 г.н., дырэктар ДУА "Вілейская гімназія №1 "Логас", беспартыйная.

**Супрановіч Ірына Аляксандраўна**, 1973 г.н., старшыня Крывасельскага сельвыканкама, член Камуністычнай партыі Беларусі.

**Ціханаў Максім Віктаравіч**, 1990 г.н., юрысконсульт ВГУП "МІГ-ЛТД", беспартыйны.

### Іўеўская акруга №54 (уваходзіць Ашмянскі раён):

**Бурачэўскі Міхаіл Уладзіміравіч**, 1959 г.н., пенсіянер, член партыі БНФ.

**Давідовіч Ірына Бенядыктаўна**, 1964 г.н., часова не працуе, член АГП.

**Маркевіч Аляксандр Іванавіч**, 1968 г.н., камандзір вайсковай часці 2044, беспартыйны.

**Рабкоўскі Дзмітры Іосіфавіч**, 1978 г.н., намеснік дырэктара па агульных пытаннях ТАА "ВышыняРамБуд", член Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

### Смаргонская акруга №59:

**Вештард Ірына Зянонаўна**, 1953 г.н., старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнй партыі (Грамада), член Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).

**Кавалька Адам Дзмітрыевіч**, 1958 г.н., старшыня Астравецкага райвыканкама, беспартыйны.

**Кучук Дзмітры Леанідавіч**, 1974 г.н., дырэктар ААТ "МС Заходняя", член Беларускай партыі "Зялёныя".

**Лагвіновіч Іван Сяргеевіч**, 1982 г.н., станочнік дрэваапрацоўчых станкоў замежнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "Косвік", член партыі БНФ.

**Уласевіч Мікалай Міхайлавіч**, 1951 г.н., пенсіянер, член АГП, аграгарадок Варняны.

Аддзел інфармацыі.

## Якім быць цэнтру горада: у Вілейцы абмяркуюць дэталёвы план

ВІЛЕЙКА

Праект дэталёвай планіроўкі цэнтра Вілейкі вынеслі на грамадскае абмеркаванне.

Праекціроўшчыкі прапануюць змены ўздоўж вуліц 17 Верасня, Савецкай, 1 Мая і Добрарычніцкай. Дабраўпарадкуюць прыбярэжжа Віліі. Магчыма, у горадзе з'явіцца новая плошча.

Грамадскае абмеркаванне арганізуюць ад 12 верасня да 6 кастрычніка. Экспазіцыю праекта прадстаўляць ад 12 да 26 верасня па будных днях з 8:00 да 13:00 і з 14:00 да 17:00 у вестыбюлі Вілейскага райвыканкама.

Заўвагі і прапановы ўдзельнікаў грамадскага абмеркавання будуць прымаць у Вілейскім райвыканкаме ад 12 верасня да 6 кастрычніка ў пісьмовай або электроннай форме.

Прэзентацыю праекта зладзяць 14 верасня у 10:00 у актавай зале райвыканкама.

Пра гэта расказала галоўны архітэктар **Галіна Кажарновіч.**

Аксана ЯРАШОНАК.

## Залез у кватэру праз акно

**МЯДЗЕЛ, МІНСК**

Напрыканцы жніўня супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку Маскоўскага РУУС Мінска раскрылі разбойны напад на 28-гадовага выкладчыка сталічнай музычнай школы.

– Зламыснік пракраўся ў кватэру музыканта па знешняй газавай трубе праз прыадчыненае пластыкавае акно на кухні, – паведаміла прэс-афіцэр Маскоўскага РУУС **Аксана Буцаева**. – Калі спрабаваў знайсці каштоўныя рэчы на кухні, то разбудзіў гаспадара кватэры. Аднак гэта яго не збянтэжыла: убачыўшы гаспадара, мужчына схапіў са стала нож і стаў патрабаваць грошы і каштоўнасці. Атрымаўшы 550 долараў ЗША, папрасіў выпусціць яго праз уваходныя дзверы і збег.

Ім аказаўся 33-гадовы жыхар Мядзельскага раёна. Ён адбываў пакаранне за хуліганства ва ўстанове адкрытага тыпу ў Віцебскай вобласці. Яго адпусцілі ў чатырохдзённы адпачынак.

Мужчыну затрымалі. Узбудзілі крымінальную справу за разбой. Яму пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

## Кіроўца заснуў падчас руху

**МЯДЗЕЛ**

Здарылася гэта бліжэй да апоўначы 4 верасня на 134-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Калачы-Мядзел у Мядзельскім раёне. 23-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Хонда-Джаз" у напрамку Мядзела і заснуў падчас руху. Машына з'ехала ў кювет і перакулілася. Кіроўцу даставілі ў бальніцу.

Дзякуючы таму, што ён прышпіліўся рамянём бяспекі, удалося пазбегнуць сур'ёзных траўмаў, падкрэслілі ў ДАІ Мінскай вобласці.

## Следчы камітэт шукае дзяўчыну на "Вольве"

**ВАЛОЖЫН**

Валожынскі райаддзел Следчага камітэта расследуе крымінальную справу аварыі са смяротным зыходам.

22 жніўня ў 23:30 кіроўца грузавога аўтамабіля МАЗ з паўпрычэпам рухаўся ў бок Ашмянаў па аўтадарозе М7 Мінск-Ашмяны-мяжа Літвы. На 69-м кіламетры трасы (прыкладна ў раёне вёскі Пяршаі) выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з легкавым аўтамабілем "Опель-Вектра", які рухаўся ў бок Мінска.

Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў вадзіцель легкавога аўтамабіля памёр на месцы.

У сувязі з высвятленнем некаторых абставін здарэння Следчы камітэт шукае відавочцаў ДТЗ. А менавіта кіроўцу легкавога аўтамабіля "Вольва" светлага колеру з рэгістрацыйным знакам сёмага рэгіёна. Дзяўчына на гэтым аўтамабілі спынялася на месцы ДТЗ і з'ехала ў бок Мінска да прыбыцця следча-аператыўнай групы, не пакінуўшы дадзеных пра сябе.

Валожынскі РАСК звяртаецца з просьбай адгукнуцца і паведаміць пра сябе па тэлефонах: (01772) **5-54-72**, VEL (044) **782-72-30**.

## Дапамажыце міліцыі знайсці тэлефон

**МАЛАДЗЕЧНА**

У маладзечанца ў цягніку "Гудагай-Маладзечна" знік мабільны тэлефон.

Міліцыя звяртаецца да тых, хто ехаў у цягніку №7034 "Гудагай-Маладзечна" 29 жніўня і, магчыма, бачыў мабільны "Lenovo P-70" у корпусе чорнага колеру, і просіць паведаміць пра гэта па тэлефонах: (8029) **779-63-32** або (8029) **140-64-39**.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Здала" міліцыі чалавека, што зрэзаў у вёсцы мак

**ВАЛОЖЫН**

Пільная жыхарка вёскі Філіпіняты, што на Валожыншчыне, патэлефанавала ў міліцыю, калі ўбачыла, што на полі ў вёсцы незнаёмы ёй мужчына рве мак.

"Невядомым мужчынам" аказаўся 44-гадовы жыхар Мінска.

Пасля ён расказваў следству, што прыехаў у Філіпіняты ў грыбы. Аднак Следчы камітэт узбудзіў справу па артыкуле: "Захоўванне наркатычных сродкаў".

– Гэта справа ўжо перададзеная ў суд, – расказаў "РГ" следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі**.

**Наталля ТУР.**

# Следчы камітэт: у нас няма паняцця "нармаваны працоўны дзень"

### Ёсць паняцце – "не дай бог не здымеш трубку"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Работнікі Следчага камітэта Беларусі святкуюць сваё прафесійнае свята 12 верасня. А напярэдадні святкавання свайго пяцігоддзя запрасілі карэспандэнта ў госці, каб расказаць пра свае будні і паказаць, дзе працуюць, апазнаюць і вядуць допыт следчыя Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.

Сёння ў камітэце працуюць 57 чалавек. Кіруе камітэтам з дня яго ўтварэння ў 2011 годзе **Пётр Варачкоў**.

– За пяць гадоў працы нам, вядома, ёсць чым пахваліцца, – пачынае размову Пётр Варачкоў, – хаця б тым, што за гэтых пяць гадоў мы тройчы станавіліся лепшым падраздзяленнем Мінскай вобласці.


Фота Наталлі ТУР.

Старшы следчы Маладзечанскага Следчага камітэта Юры Багушэвіч не толькі паказаў, што знаходзіцца ў чамадане эксперта-крыміналіста, але і расказаў, як карыстацца спецыяльнымі сродкамі.

**За пяць гадоў 3 600 крымінальных спраў, якімі займаўся Маладзечанскі РАСК, былі накіраваныя ў суд.**

– З гэтых спраў у Маладзечне не было ні аднаго апраўдальнага прыгавору, – падкрэслівае Пётр Варачкоў, – гэта значыць, што ўсе справы вядуцца дасканала. І ў суд мы накіроўваем толькі тыя, віна чалавека ў якіх цалкам даказаная і мы ў гэтым ні на адзін працэнт не сумняваемся.

Сёлета ў суд накіраваныя 600 крымінальных спраў.

Такая колькасць паспяхова раскрытых спраў, лічыць Пётр Варачкоў, заслуга перш за ўсё калектыву.

– Маладзечанскаму аддзелу ўсё часцей даручаюць расследаванне цяжкіх спраў. І на тое ёсць падставы.

Сёлета восем раскрытых крымінальных спраў – гэта восем злачынстваў, якія здзейснілі службовыя асобы.

На чатыры з паловай гады асуджаны былы доктар з Маладзечна, які здзейсніў 11 службовых злачынстваў, супрацоўнік Вілейскай ДАІ, ён вінаваты ў дзевяці правапарушэннях.

– Здараліся і такія выпадкі. Напрыклад, дырэктар аднаго прадпрыемства атрымоўваў новую службовую машыну і афармляў яе на сваю дачку. Або іншы дырэктар цягам трох гадоў запраўляў уласны аўтамабіль дзяржаўным бензінам. Зразумела, што пра такія выпадкі нам становіцца вядома. Заводзім крымінальныя справы.

Адна з рэзанансных спраў, якую цяпер расследуе Маладзечанскі Следчы камітэт – гэта справа аб махлярстве. Махляр з 2011 года падмануў 37 грамадзян.

– Цяпер мы прымушаем вінаватага выплачваць матэрыяльную шкоду пацярпелым.

Амаль завершаная справа ў адносінах да аўтамабільнага махляра.

– Мужчына тэлефанаваў па аб'явах тым, хто прадаваў свой аўтамабіль. Прасіў прадаць яму аўто ў растэрміноўку, даваў першы ўнёсак 100 долараў, затым гэтую машыну ён прадаваў іншым людзям. Так ён рабіў у Мазыры, Салігорску, Маладзечне і іншых гарадах. Усяго па краіне мужчына падмануў 18 аўтаўладальнікаў.

### Ад нас сыходзяць толькі на павышэнне

Пётр Варачкоў кажа, што вакантных месцаў у Следчым камітэце няма.

– Калі ад нас і сыходзяць людзі, то толькі на павышэнне. Тады на іх месца мы бяром маладых спецыялістаў, выпускнікоў юрыдычнага факультэта БДУ, Акадэміі МУС, Акадэміі кіравання. У Следчы камітэт уладкавацца не проста. Нашы будучыя супрацоўнікі праходзяць псіхалагічныя тэсты, праверку на паліграфе.

Следчыя павінны разумець, што кожная справа важная, ці то скрадзеная гусь, ці то мільёны грошай.

Аднак ёсць справы, якія да сёння не раскрыты.

– Да гэтага часу баліць і выклікае шмат пытанняў справа з забойствам дзяўчыны на прыпынку "Фестывальны".

Пасля кароткага расповеду пра дасягненні і цяжкасці ў следчай справе, Пётр Варачкоў разам са старшым следчым **Юрыем Багушэвічам** зладзіў экскурсію па тых пакоях у Следчым камітэце, якія грамадзянін, што не мае праблем з законам, бачыць толькі ў кіно: пакой для допытаў, пакой для апазнанняў.

Пакой для апазнанняў, дарэчы, такі самы, як у амерыканскім кіно – вы бачыце падазраваных, яны вас – не.

– Літаральна некалькі дзён таму тут праходзіла апазнанне людзей, якія падазраюцца ў рабаванні банка ў Беразінскім, – расказвае Пётр Варачкоў. – Апазнавалі і жанчыну, якую потым асудзілі за наркотыкі.

Дарэчы, колькасць злачынстваў у Маладзечанскім раёне, звязаных з наркотыкамі, сёлета зменшылася.

– Магчыма, людзі разумеюць, што па артыкулах, звязаных з наркотыкамі, сядзець давядзецца ад 10 да 15 год, можа, таму не рызыкуюць сваёй свабодай.

Юры Багушэвіч падчас экскурсіі па Следчым камітэце паказаў чамаданчык, з якім эксперты-крыміналісты выязджаюць на месца злачынства.

У гэтым чамадане ёсць усё, што трэба, каб па адбітках пальцаў, слядах ад абутку, сліне ці валасе чалавека знайсці і раскрыць злачынства.

Пётр Варачкоў расказаў, што ў сярэднім у суткі следчыя тройчы выязджаюць на месца злачынства, дзе неабходная прысутнасць супрацоўнікаў Следчага камітэта.

– Канешне, больш за ўсё спраў – крадзяжы.

Аднак, што дзіўна, за гэты год следчыя ўжо пяць разоў выязджалі на здарэнне, калі чалавек паміраў ад таго, што ў стане алкагольнага ап'янення душыўся кавалкам мяса.

– І, вядома, следчыя не ведаюць, што такое нармаваны працоўны дзень, – кажа Пётр Варачкоў, – яны ведаюць, што значыць "не дай бог ты не зняў трубку".

**Наталля ТУР.**

# Выпіць кавы па-турэцку ў бункеры на беразе мора

## Чым здзіўляе Албанія беларускіх турыстаў?

**Вас калі-небудзь цікавіла, як пачуваюцца замежныя турысты, прыехаўшы ў Беларусь? Мала з кім могуць паразумецца па-англійску, не разумеюць кірыліцы, мясцовыя парадкі падаюцца дзіўнымі…**

Каб адчуць увесь спектр гэтых эмоцый – ад абурэння да захаплення – беларусу варта паехаць у Албанію.



Фота Аляксандры ДВАРЭЦКАЙ.

Гульня ў карты ў цэнтральным парку.



Фота Аляксандры ДВАРЭЦКАЙ.

Аўтар артыкула каля аднаго са шматлікіх бункераў.

### Рыхтуйцеся размаўляць жэстамі і малюнкамі

Першае, што можа адпудзіць ад паездкі ў Албанію, – дарога. Прамых рэйсаў з Мінска ў Тырану не існуе. З Варшавы да сталіцы Албаніі можна даляцець за 250 еўра.

Пры жаданні зэканоміць, можна дабірацца з дзвюма перасадкамі: з Варшавы ляцець да грэчаскіх Салонікаў (танныя авіялініі лоў-косты ў два бакі абыдуцца ў 60 еўра), а пасля з Салонікаў да Тыраны ехаць аўтобусам (30 еўра ў адзін бок).

На час летніх адпачынкаў, ад мая па лістапад, беларусы могуць наведваць Албанію без візы. Цягам іншых месяцаў праз мяжу пусцяць са звычайным Шэнгенам.

Албанская мова хоць і адносіцца да індаеўрапейскіх, але не ўваходзіць у ніводную моўную сям'ю. Таму валоданне англійскай, іспанскай ці польскай ніяк не дапаможа вам зразумець албанца. Прычым па-англійску там гавораць вельмі слаба: размаўляць можна хіба толькі на моладзь ці супрацоўнікаў турыстычных фірм.

Албанія гістарычна звязаная з Італіяй, якая знаходзіцца праз мора, таму італьянская можа дапамагчы. Але збольшага даводзіцца паразумявацца пры дапамозе мімікі і жэстаў, а таксама запісаў і малюнкаў.

### Да мора можна дабрацца, праспаўшы свой прыпынак

Мы дабіраліся да Албаніі аўтобусам з суседняй Македоніі. Памежны кантроль паміж Балканскімі краінамі, што не ўваходзяць у Еўрапейскі Саюз, захаваўся. Але адбываецца па-балканску расслаблена: памежнікі не заходзяць у аўтобусы, пашпарты ім прыносіць кіроўца. Багаж не правяраюць, пячаткі не ставяць.

Ужо з вокнаў аўтобуса Албанія здзіўляе незвычайнымі пейзажамі: высокія скалістыя горы, дарога серпанцінам, выцвілая на сонцы трава, рэдкія вясковыя дамы і спічастыя мінарэты – вежы мячэцяў.

Тое, што аўтобус усё ж разлічаны на мясцовых, а не замежнікаў, мы зразумелі надта позна. Кіроўца некалькі разоў спыняўся ў Тыране – там, дзе зручна пасажырам. Мы ж цярпліва чакалі галоўнага аўтавакзала. Калі аўтобус пачаў выязджаць з горада, занепакоіліся. З дапамогай пасажыркі-македонкі звярнуліся да кіроўцы.

Аказалася, аўтобус спыняўся на вакзале – ну так, не на самім вакзале, а на вуліцы насупраць, бо ўсе нармальныя людзі і так разумеюць, што гэта вакзал! А мы самі вінаватыя, бо не трэба сядзець, вушы развесіўшы, – так нам пераклалі эмацыйную прамову кіроўцы.

Паколькі выбару не было, мы выйшлі на наступным прыпынку – у горадзе Дурэс, на самым беразе Адрыятычнага мора. Атрымалася зэканоміць 1,5 еўра – столькі каштуе квіток ад Тыраны да Дурэса.

### Без чаю, затое з кавай па-турэцку

У Албаніі трэба быць цярплівым і расслаблена ўспрымаць рэчаіснасць. Аўтобус не спыніўся на вакзале і завёз у суседні горад? Расслабцеся і ідзіце на бераг мора.

Вы хочаце даведацца, з чаго зробленая страва, але афіцыянт толькі паціскае плячыма і паўтарае нешта па-албанску? Расслабцеся, хай будзе гастранамічны эксперымент.

На выхадных не працуюць абменнікі, а ў вас ніводнага албанскага лека? Расслабцеся і трэніруйце навыкі гандлю, прапаноўваючы аплату ў еўра.

Шукаючы канкрэтныя месцы, мы рабілі так: паказвалі мінаку спачатку фотаздымак месца, а потым карту, у якую ён павінны быў тыкнуць пальцам. Праверана, гэта працуе!

Цэны ў Албаніі прыемныя для беларуса. Асабліва калі параўноўваць з суседнімі Грэцыяй і Чарнагорыяй, дзе разлічваюцца ў еўра. Кава з пірожным абыдзецца ў адзін еўра, столькі ж каштуе літр малака ці дзясятак яек. Суткі ў двухмесным нумары хостэла – каля 11 еўра.

У Албаніі варта пакаштаваць каву па-турэцку і мясцовыя слодычы: баклаву ці тулумбі, часцей за ўсё зробленыя на мёдзе. Есці іх без гарбаты гарачай кавы наўрад ці атрымаецца, бо ад салодкасці проста зводзіць зубы.

А вось звычайнага чаю вы тут не знойдзеце, як, зрэшты, і на цэлых Балканах. Тут яго проста не п'юць. Розныя зёлкі кшталту мяты, ліпы ці крапівы – калі ласка! А вось чорны і зялёны чаі можна знайсці толькі ў нешматлікіх крамах альбо ў кавярнях еўрапейскіх сетак.

### Ад атэізму да "лёгкага ісламу"

Адзін са стэрэатыпаў пра Албанію: там адны мусульмане! Насамрэч яны складаюць каля 60% насельніцтва, а 40% – хрысціяне, колькасць каталікоў і праваслаўных прыкладна роўная.

Таксама варта ўлічыць і тое, што некалькі дзесяцігоддзяў афіцыйным светапоглядам у Албаніі быў… атэізм. Ад 1964 да 1989 года, калі краінай кіраваў камуніст Энвер Ходжа, у краіне дзейнічала забарона на любую рэлігію.

Цяпер колькасць мусульман расце, пра што нагадвае будоўля ў цэнтры Тыраны: будуюць вялікую мячэць з чатырма мінарэтамі.

> **Тое, што ў краіне жывуць мусульмане, відаць і па прыбіральнях. У іх ёсць бідэ альбо ўнітаз са спецыяльным кранікам для падмывання – паводле шарыяту мусульманін не можа карыстацца туалетнай паперай.**

Самі албанцы гавораць, што ў іх "лёгкая версія" ісламу. Жанчыны не носяць хусткі і не закрываюць твар. Прайшоўшыся па вуліцах Тыраны, з гэтым можна пагадзіцца: куды больш жанчын у хіджабах сустракаеш на вуліцах у суседніх сталіцах – Скоп'е і Сараеве.

Аднак нечаканы пачатак мусульманскай малітвы ўсё ж можа напалохаць непадрыхтаванага чалавека. Трэба мець жалезныя нервы, каб не падскочыць на месцы, калі пасярод вечаровай цішыні з гучнагаварыцеляў на мінарэтах рэзка пачынае гучаць малітва па-арабску.

Для турыстаў мячэці маюць і практычны сэнс: каля іх заўсёды ёсць фантанчыкі з пітной вадой, таму не даводзіцца траціцца на ваду ў бутэльках.

Адначасова з гэтым краіна імкнецца ўступіць у ЕС. Культ усяго "еўрапейскага" відаць на вуліцах: крамы з назвамі "Еўрамэбля" ці "Еўрастандарт" ёсць у кожным раёне.

### Хавайся ў бульбу? Не, у бункер

Агулам Тырана выглядае бедным горадам. Нават малюнкі на дамах – вясёлкі, кружочкі ці палоскі, – якія пачалі маляваць па загадзе апошняга мэра Тыраны, не ў стане схаваць іх стары, пашарпаны выгляд.

На вуліцах шмат бадзяжных жывёл, асабліва вялікіх сабак, якія збіваюцца ў зграі. На дарогах можна пабачыць такую карціну: чалавек на вазку ці на мыліцах ходзіць паміж машынамі, што стаяць на святлафоры, і просіць міласціну.

У Албаніі не пройдзешся са спакойнай душой па "зебры". Зялёнае святло не гарантуе, што праз секунду ля цябе не тармазне машына на поўнай хадзе. Настолькі часта даводзіцца бачыць, як людзі ідуць і едуць на чырвоны, што міжволі задаешся пытаннем, навошта ўвогуле ставяць святлафоры.

Цяжка тут зразумець і расклад транспарту. Жадаючым даехаць да Шкодры, што ў 100 кіламетрах ад Тыраны, не трэба шукаць касу, глядзець расклад і загадзя набываць квіток.

Касы проста не існуе, як і раскладу ў пісьмовым выглядзе. Прыходзіш на вакзал, крычыш "Шкодра!", даеш кіроўцу паперку, на якой просіш напісаць час адпраўлення (выкарыстоўваючы жэст "гадзіннік") і цану (паказваеш манеты). І праз пяць хвілін выязджаеш з Тыраны.

На развітанне з Албаніяй варта абавязкова наведаць хаця б адзін бункер. Камуністычная прапаганда сцвярджала, што вакол адны ворагі, ад якіх кожную хвіліну можна чакаць нападу. Адзінае выйсце – будаваць бункеры на выпадак атак. У час Энвера Ходжы іх пабудавалі каля 800 тысяч: па адным на чатырох албанцаў.

Цяпер многія з іх разбураныя альбо схаваныя – сучасныя албанцы не заўсёды ганарацца сваім камуністычным мінулым. У некаторых арганізавалі кавярні ці хостэлы. А большасць з тых, што захаваліся, выкарыстоўваюцца як падвалы ці неафіцыйныя туалеты.

Магніты, попельніцы і скрынкі ў выглядзе бункераў – адзін з самых папулярных сувеніраў.

Менавіта такімі незвычайнымі дэталямі гісторыі і культуры Албанія і прыцягвае турыстаў. Яна прынясе шмат адкрыццяў тым, хто зможа расслабіцца і адкрыцца ёй насустрач.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

# Выйшла энцыклапедыя пра музычныя інструменты

**Гэтым летам новы энцыклапедычны даведнік "Беларускія народныя музычныя інструменты" выйшаў у друк і з'явіўся ў продажы.**



Музыка-мультыінструменталіст выкладчык Сяргей Ярук з даведнікам.

Фота Наталлі ТУР.

Акрамя таго, што гэта ілюстраваны даведнік, які раскажа пра багацце і разнастайнасць беларускіх народных музычных інструментаў, пра гісторыю іх стварэння, пра тое, хто іграе, выраб ляе і калекцыянуе гэтыя інструменты.

**Чытачам ён будзе яшчэ цікавы тым, што ў ім узгадваюцца музыкі, майстры, калекцыянеры з Маладзечна, Вілейкі, Мядзела, Смаргоні і іншых гарадоў.**

Да даведніка прыкладзены музычны дыск, каб у чытачоў была магчымасць пачуць, як гучыць той ці іншы інструмент.

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" даведнік прынёс музыка-мультыінструменталіст выкладчык **Сяргей Ярук.**

– Мне патэлефанаваў складальнік кнігі, былы намеснік міністра культуры Беларусі **Тадэвуш Стружэцкі**, – расказвае Сяргей Ярук. – Папрасіў напісаць сваю біяграфію і даслаць некалькі здымкаў.

Кнігу, як прызнаецца Сяргей, ён толькі пачаў вывучаць.

– У першым раздзеле распавядаецца пра музычныя інструменты, на якіх igралі нашы продкі: цымбалы, дуды, гармонікі. У прынцыпе, для мяне няма нічога новага. Адзінае, што тут можна ўбачыць выявы і прачытаць пра такія музычныя інструменты, як шархуны, кляшчоткі, варган. Вось што цікава, – адзначае Сяргей, – вельмі шмат музыкаў, якія іграюць на старадаўніх музычных інструментах, паходзіць менавіта з цэнтральнай Беларусі.

У даведніку асобныя артыкулы прысвечаны гарманісту **Барысу Харэвічу**, вядомаму калекцыянеру музычных інструментаў, кіраўніку этнатрыа "Тройца" **Івану Кірчуку**.

У раздзеле "народныя майстры" можна знайсці звесткі пра **Івана Карнея**, смаргонскага майстра смычковых інструментаў, **Міхаіла Гайдукевіча**, маладзечанскага майстра па вырабе гармонікаў, **Мікалая Судніка**, вілейскага майстра па рамонце і вырабе гармонікаў, пра мядзельскага народнага майстра **Мікалая Шастаковіча.**

У даведніку расказваецца пра найбольш значныя фестывалі народных інструментаў, што ладзяцца ў нашай краіне.

Дапоўненае выданне музычным дыскам.

– Мне самому дзіўна, што музыка ў маім выкананні трапіла ў гэты дыск, – прызнаецца Сяргей. – Але гэта нечаканасць прыемная. Цяпер сваім вучням, якім выкладаю музыку ў Лебедзеўскай школе, буду расказваць, што іх выкладчык увайшоў у гісторыю.

Наталля ТУР.

# У мядзельскім музеі паказваюць старадрукі

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы адкрылася новая выстава. Называецца яна "Няма нічога мацней за слова".

На ёй можна пабачыць старадрукі 17-20 стагоддзяў, школьныя падручнікі канца 19 стагоддзя – пачатку 20 з фондаў музея.

Выстава працягнецца да канца верасня.

Аддзел інфармацыі.

# Ствараць трэба па-за часам:

## Марыя Бельская з Маладзечна выдала першы зборнік

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэты жнівень стаў "ураджайным" на літаратурную творчасць для маладзечанкі Марыі Бельскай. У Мінску выйшла яе кніга "Таямніца". А ў Краснадары – калектыўны паэтычны зборнік "Берагі сяброўства", куды ўвайшлі вершаваныя пераклады Марыі.**

Што натхняе паэта на творчасць? Як выдаць бясплатна зборнік вершаў? І як у мамы траіх дзяцей знаходзіцца час на літаратуру? Пра гэта наша размова з паэткай.

**– Марыя, калі вы прыйшлі да таго, што вам патрэбны зборнік?**

– У 2005 годзе памерла мая бабуля. З ёй і з вёскай былі звязаны самыя яркія ўспаміны ў жыцці. Пад уплывам гэтых пачуццяў я напісала паэму "Цэнтр сусвету". Вось тады я адчула патрэбу, што твор абавязкова павінны быць надрукаваны, увекавечаны.

**– Сёння многім маладым паэтам бясплатнае выданне зборніка здаецца чымсьці фантастычным. Як у вас усё атрымалася?**

– На адной імрэзе літаб'яднання "Агмень"прысутнічаў паэт з Мядзельшчыны **Рагнед Малахоўскі**. Пасля майго выступлення ён падышоў і распавёў, што займаецца выданнем кніг у бясплатнай серыі "Маладая паэзія Беларусі". Спытаў, дзе можна пачытаць мае вершы. Я дала спасылкі на інтэрнэт-парталы. Рагнед пазнаёміўся з маёй творчасцю і сказаў, што няма ніякіх перашкод для выдання зборніка.

**– Цяжка было прыдумаць назву сваёй першай кнізе?**

– Назву Рагнед падказаў. У мяне быў больш доўгі варыянт. "Таямніца"– назва аднаго з маіх вершаў, прысвечанага Маладзечну. Да таго ж гэта прыгожае беларускае слова. У нашай роднай мове шмат такіх слоў: скажаш адно – і ўсё зразумела, і нічога больш не хочацца.

**– Ці ўсім у зборніку вы задаволены?**

**– Спачатку я думала, што кніга будзе ў два разы таўсцейшая. Хацелася ўключыць туды і рускамоўныя вершы, і тэксты ўласных песень. Цяпер разумею: напэўна, лепш, што кніга атрымалася цалкам на беларускай мове.**

**– Зборніка доўга чакалі?**

– Каля года. За гэты час у мяне з'явіліся новыя вершы. Але дадаць у кнігу іх не атрымалася. Затое ёсць ужо матэрыял для будучых зборнікаў. Ды і на пытанні пра ўласную творчасць стала зручна адказваць: вось гэтыя вершы ўвайшлі ў зборнік, а гэтыя я напісала пасля выдання кнігі.

**– Як адчувае сябе чалавек пасля выдання ўласнага зборніка?**

– Адчуванне такое: адбылося! Да гэтага мае вершы друкаваліся ў калектыўных зборніках. Але ўласная кніга – зусім іншае.

**– Паэтычны талент перадаецца ў спадчыну?**

– Напэўна, так. Мая мама пісала вершы і наведвала мясцовае літаратурнае аб'яднанне. Мае дочкі цяпер складаюць цудоўныя казкі. Думаю, і сачыненні ў школе ў іх будуць добрыя атрымлівацца. Вельмі пастараюся, каб яны як мага даўжэй не ведалі, што сачыненні цяпер можна спампаваць з інтэрнэта.

**– Што натхняе вас на творчасць?**

– Добыя кнігі. **Максім Багдановіч, Надзея Ясьмінска**. Здараецца, чытаеш кнігу і тут жа бярэшся за аловак, каб пачаць пісаць нешта сваё. Са школы люблю **Ніла Гілевіча** і **Уладзіміра Караткевіча.** Натхняе прырода і добрая музыка.

**– А з маладых творцаў падабаецца хто-небудзь?**

– З маладых уразіў **Рагнед Малахоўскі**. Я не была знаёмая з яго творчасцю. Але неяк ён скінуў спасылку на паэтычны партал, прапанаваў пачытаць яго вершы і пакінуць водгук. Я адразу засумнявалася: гэта ж чалавек, які рыхтуе да друку маю кнігу. А раптам мне яго вершы не спадабаюцца.Трэба будзе нешта прыдумляць, бо дрэнная ж пісаць не захочацца. Але вершы насамрэч былі шыкоўныя, і нічога прыдумляць не спатрэбілася. Падабаецца таксама фэнтэзі **Уладзіміра Садоўскага**.

**– Ведаю, што вершы вы пачалі пісаць са школы. Настаўнікі якую-небудзь ролю адыгралі ў вашай творчасці?**

– О, так! Настаўнікі – гэта наша ўсё. У маёй творчасці – па 100 працэнтаў ад кожнага. Гэта настаўніца беларускай мовы **Іна Ларына**, настаўніца рускай мовы **Вольга Сурма** і замежнай мовы **Вольга Малярэвіч**. "Калі Маша не слухае мяне на ўроку, а піша нешта сваё, я не рабіла ёй заўваг. Ведала: на перапынку яна падыдзе да мяне з чарговым вершам", – прызналася неяк настаўніца замежнай мовы.




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Марыя Бельская.

**– Не так даўно вы пачалі займацца перакладамі з рускай мовы на беларускую. Некаторыя пісьменнікі лічаць, што гэта – марнаванне часу. А вы?**

– Не, пераклады – патрэбная справа. Мой верш пра Максіма Багдановіча пераклала на рускую мову паэтка з Анапы **Ірына Іваськова.** Мясцовыя кампазітары напісалі музыку да гэтых слоў. І цяпер песню пра Багдановіча спяваюць у Расіі. Каб не пераклад, наўрад ці даведаліся б пра мяне і мае вершы ў іншай краіне. Спадзяюся, што і вершы рускіх паэтаў, перакладзеныя мной на беларускую мову, зайгралі новымі фарбамі.

**– Як вы знаходзіце час на творчасць?**

– Ствараць трэба "па-за часам". Яшчэ са школы я пісала вершы на аўтобусных прыпынках, у транспарце, па дарозе куды-небудзь. Я нават слаба ўяўляю, як гэта можна сесці за стол, ўзяць аркуш паперы, аловак і "наваяць" шэдэўр.

**– У іншых жанрах сябе спрабуеце?**

– Так. Мару напісаць фэнтэзі на беларускай мове. Але гумарыстычнае. Бо фэнтэзі без гумару – гэта нецікава.

Аксана ЯРАШОНАК.



## ВІНШАВАНКА

**САЛАГУБУ Мікалаю Аляксандравічу з Маладзечна**



Сёння, 8 верасня, споўнілася майму роднаму брату (справа) – 70 гадоў. З нагоды гэтай юбілейнай даты я персанальна яго віншую! А найбольш жадаю, каб здароўе было не па гадах моцнае, каб сям’я любіла!

**Брат Шурык.**

## ПАДЗЯКА



Люблю падарункі выбіраць і дарыць, чым атрымліваць. Таму стараюся надзяліць увагай блізкіх і знаёмых хоць невялічкім сувенірам.

А тут у сяброў гадавіна вяселля – 15 гадоў сумеснага жыцця. Асабліва не сталі мудрыць – гэта ж шкляное, або хрустальнае вяселле. Трэба шукаць хрустальныя альбо шкляныя вырабы.

Адразу ж паехалі ў фірменны магазін “Нёман”, што ў гандлёвым цэнтры “Модуль”.

Па-першае, выбар разнастайны: ад бакалаў да дзіўнай прыгажосці ваз, цукерніц. Па-другое, цэны не кусаюцца. Прыемна ўзрадавала і тое, што прадаўцы раілі тавары, як даўнія знаёмыя, а не толькі, каб купілі.

Сябры засталіся задаволеныя падарункам.

**Дзякуй работнікам магазіна “Нёман” за прафесіяналізм і індывідуальны падыход да пакупнікоў.**

**Сям’я Пархоменкаў з Валожына.**

## СПАЧУВАННЕ

Калектыў паліклінікі №3 Маладзечанскай ЦРБ смуткуе з прычыны заўчаснай смерці доктара-хірурга **Осіпава С.В.** і выказвае свае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі А-3, 2009 г.в, 1,4 бензін, цёмна-шэры металік, усе опцы. Т. (8-029) 6673211, (8-029) 7491540.*
- Аўдзі-100, 1984 г.в, па запчастках, 1989 г.в – панэль, дзверы, печка. Т. (8-025) 9171425.
- Аўдзі-100, 1989 г.в, 2,4д, электралюстэркі, абагрэў люстэрак, люк, 1600 руб, без торгу. Т. (8-029) 8716507.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в, светла-бежавы. Т. (8-029) 1798400.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- ЗІЛ-130, дызель Д245, самазвал-сяльгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.
- Івека Турба-Дэйлі 49-10, 1997 г.в, вібаста, падагрэў рухавіка на 220 в. Нядорага. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*
- Матацыкл “Мінск”. Т. (8-029) 3120150.
- Мерсэдэс-Бэнц 180С, 1998 г.в, бензін, сіні металік, кандыцыянер. Т. (8-029) 7578023, (8-029) 5618155.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- ФВ Т-2, 1989 г.в, цёмна-сіні, грузавы, 2 000 руб. Т. (8-029) 3214361.*
- ФВ Т2, грузапасажырскі, 1992 г.в, 1,9Д. Т. МТС (8-029) 2557514.*
- ФВ-Гольф-4, 2002 г.в, 1,4Б, хэтчбэк, 3-дзверны, цёмна-шэры, прабег 150 000 км, 8 200 руб. Т. (8-033) 6942602.
- Форд-Скорпіё, 1992 г.в, хэтчбэк, дзверы, супорта. Т. (8-029) 9394771.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі да вілачнага пагрузчыка РАК-7, рухавік, масты, колы, стралу. Т. (8-029) 9394771.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэякапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*
- 3-пакаёвая кватэра в раёне завода Зеніт у Вілейцы. Т. (8-029) 3346820, (8-029) 5098330.*
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў в. Заскавічы, 2/2 паверх цаглянага дома, 70,6/53/10, санвузел раздзельны, газ + гараж, патрэбны рамонт. Т. (8-029) 1071033.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гандлёвы павільён у Вілейцы (раён СШ №5). Т. (8-033) 6024918 Алена.*
- Гараж 6х4 м у Вілейцы ГК “Антэй”. Т. (8-029) 1130550.*
- Дача каля вёскі Ласі Маладзечанскага раёна, садовы кааператыў “Брыльянт”. Домік блочны, дагледжаны ўчастак. Ад чыгункі 1 км 400 м. Т. (8-033) 6407558.*
- Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*
- Дом у в. Крывое Сяло Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6036598.*
- Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Парэчча Маладзечанскага р-на. Т. (8-029) 8622058.*
- Дом у Вілейскім р-не. Нядорага. Т. (8-029) 2623201.*
- Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.

### ЗДАМ

- 4-пакаёвую мэбляваную кватэру ў Маладзечне, можна для студэнтаў. Т. (8-033) 3786807, (8-0176) 741594.

### НАЙМУ

- 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, можна дом альбо паўдома. Парадак абяцаю. Т. (8-01771) 78672.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў, вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# У Новай Гуце зрабілі помнік са старой грушы

ВІЛЕЙКА

**Новая Гута. Яна не аджывае свой век, як шматлікія беларускія вёскі, не становіцца бесперспектыўнай.**

Яна жыве сённяшнім днём з верай у будучыню, шчыра шануючы памяць сваіх продкаў і гістарычнае мінулае ўвогуле.

Старыя яе жыхары свае сядзібы пакідаюць у спадчыну сваім нашчадкам. А іншыя дамкі набываюцца пад лецішча гарадскімі жыхарамі. Жыццё вёскі працягваецца, і, мала таго, яна набывае сучасны выгляд.

Чысціня вёскі, як самой вуліцы, так і яе падворкаў, – гэта вынік клопатаў сельсавета, ЖКГ і, галоўным чынам, саміх яе жыхароў.

Магу з упэўненасцю сказаць, што Новая Гута і яе жыхары могуць служыць прыкладам для іншых.

Новая Гута была спалена ўшчэнт 5 мая 1943 года. Жыхары яе выраталіся, але не ўсе.

Хтосьці загінуў ад рук фашысцкіх карнікаў і іх памагатых, іншых забілі невядомыя ўзброеныя бандыты, якіх нямала швэндалася па лясах падчас вайны.

А яшчэ многія жыхары Новай Гуты аддалі свае жыцці на франтах вайны. Магілкі іх раскіданыя па ўсёй Еўропе.

Родным, вядома, наведаць іх месцы пахавання было магчыма.

Вось таму летась, праз 70 год пасля вайны, вяскоўцы гуртам вырашылі сваю агульную праблему.

Яны вярнулі з чужыны, ды і ўвогуле з забыцця, імёны сваіх загінулых родных і землякоў на іх малую радзіму.

Вясной 2015 года на вясковым сходзе прайшло абмеркаванне па ажыццяўленні гэтай задумкі. Запрошаныя на вясковы сход старшыня Хаценчыцкага сельсавета **Святлана Валовік** і намеснік старшыні Беларускага саюза сувораўцаў і кадэтаў **Максім Міська** ідэю падтрымалі, паабяцаўшы магчымую дапамогу ў гэтай справе. Вяскоўцы сабралі сродкі, каб набыць помнік.

А ўсё астатняе, як кажуць у народзе, з усяго свету па нітачцы, а голаму кашуля.

Усе арганізацыйныя пытанні ўзяў на сябе аўтар ідэі, аўтар гэтых радкоў.

Прозвішчы загінулых выгравіраваў на пліце цудоўны народны умелец з Маладзечна **Генадзь Шурпік**.

Абрамленне гэтай пліты зрабіў Беларускі саюз сувораўцаў і кадэтаў. А сам помнік зрабілі мясцовыя жыхары з пня спілаванай здзічэлай грушы.

Гэта вялізнае ў некалькі абхватаў дрэва ўжо дажывала сваё апошняе стагоддзе і таму складала небяспеку вяскоўцам.

Цяпер шматвекавая груша стала помнікам, урачыстае адкрыццё якога адбылося 13 чэрвеня мінулага года.

Пасля адкрыцця прайшоў больш за год, і ўжо сёння з упэўненасцю можна сказаць, што гэты народны шэдэўр мастацтва праісне яшчэ шмат часу, нагадваючы людзям сваё паходжанне і таксама гістарычнае мінулае вёскі і яе жыхароў.

Вяскоўцы з самага адкрыцця і па сённяшні дзень клапатліва і з пяшчотай адносяцца да створанага іх рукамі помніка.

Акрамя штучных кветак, помнік патанае ў жывых, якія мясцовыя гаспадыні пасадзілі на клумбах вакол.

За помнікам наглядаюць усе жыхары. Ніхто не пройдзе міма, заўважыўшы штосьці няладнае, каб гэту хібу не выправіць.

Хочацца асобна адзначыць такіх вяскоўцаў, як **Валянціна Несцярэнка**, **Ванда Масальская**, **Ганна Філіповіч**, за іх клопаты па доглядзе за помнікам.

А таксама ўсіх вяскоўцаў і карэнных, і прыезджых, якія ўспрынялі чужы боль, як свой, і ўзялі ўдзел у гэтай добрай і патрэбнай справе па ўшанаванні памяці загінулых падчас другой Сусветнай вайны.

Узведзены неабыякавымі людзьмі жывы помнік натуральна жыве, а разам з ім жыве і памяць пра трагічнае мінулае вёскі Новая Гута.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**аўтар і каардынатар работ па ўсталяванні помніка ў Новай Гуце.**

# Быў час, быў дзень, была эпоха...

**Знаёмім чытача з выбранымі фрагментамі ўспамінаў гісторыка Міхаіла Філістовіча, які доўгі час працаваў на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне.**
*** Адкуль былі грошы ў камуністычнай наменклатуры з поўдня СССР, каб шыкаваць на курортах.**
*** Першыя месяцы пасля Чарнобыля. Самасёлы і марадзёры. Ад чаго душа балела?**


Фота Уладзіміра БАЗАНА.

Пасля Чарнобыля. У палескай вёсцы.

### Адкуль былі грошы

З прадстаўнікамі паўднёвых савецкіх рэспублік сустракаўся нямала. Двойчы ў Ташкенце, Самаркандзе, Сочы, Гаграх, Сухумі, на нарадах і вучобе ў Маскве. Заўсёды здзіўляла: адкуль у іх грошы, каб так шыкаваць?

Не паспелі ў 1972 годзе грузіны разам з беларусамі прыбыць турыстамі на балгарскі Слынчаў Браг, як ужо фарсяць на таксі, хоць там і ездзіць нікуды не трэба: усё ў двух кроках. На адпачынак у 1983 годзе – з японскімі касетнымі магнітафонамі. У партыі наменклатура па ўсім Саюзе атрымлівала ж аднолькавую зарплату, за выключэннем паўночных рэгіёнаў, дзе быў дадатковы каэфіцыент.

Тайну вельмі неахвотна прыадкрыў мой сусед па пакоі ў санаторыі "Фарос" азербайджанец Ханлар Аглы і неяк там складана, каб запомніць, імя далей, які для зручнасці прапанаваў зваць яго проста Алік.

На моры я яго амаль не бачыў. Кожны дзень некуды знікаў, а вяртаўся са шматлікімі закупкамі, якія пакаваў у чамаданы. Зацікавіла мяне гэта, і я спытаў: "Алік, адкуль у цябе грошы, твой аклад меншы, чым мой?" Вось тады я і пачуў гэта шматзначнае "дапамагаюць...". Аказалася, што ў іх рэспубліцы была такая завядзёнка: калі начальнік адбываў на адпачынак, усе падначаленыя скідваліся грашыма, каб яму там было добра, ні ў чым не меў патрэбы.

У цэнтры Гаграў на развілцы дзвюх галоўных вуліц штодзень нёс вахту супрацоўнік мясцовай ДАІ. Ён нават не абцяжарваў сябе клопатам затрымліваць аўтамабілі: кіроўцы самі спыняліся і неслі ва ўмоўленае месца 5 рублёў. А вось таго, хто не панёс, дашнік "кампасціраваў" па поўнай праграме. У 1986 годзе гэта былі грошы!

Ад сустрэч з прадстаўнікамі поўдня зрабіў для сябе выснову: трэба вельмі пільна сачыць за тым, што ты хочаш ім сказаць. Яны ж не валодаюць усімі нюансамі рускай мовы. Асабліва, калі ўжываеш звычныя для нас прымаўкі, у якіх тоіцца тонкі гумар.

Пераканаўся ў гэтым пасля аднаго выпадку, сведкам якога быў у Сочы. Пад вечар на беразе мора апынуліся разам я, калега з Дагестана і яго курортная знаёмая масквічка. Прыкмячаў і раней, што сталічныя дамачкі вельмі прыязна ставіліся да каўказцаў: можна было "на халяву" (у той час не было такога слова ў лексіконе) бавіць час у рэстаранах і іншых не для бедных месцах. Маскоўскі прагматызм!

Дагестанец быў у ладным настроі, збіраўся запрасіць нас да сябе ў госці на кізлярскі каньяк, аб якасцях якога гаварыў ва ўзнёслых тонах. Вось тут жанчына, не падумаўшы, і ляпнула: "Кожны кулік сваё балота хваліць". Горды сын апетага Расулам Гамзатавым цудоўнага краю змікіціў толькі сэнс слова "балота" і аднёс гэта на свой адрас. Трэба было бачыць, якім зніштальным позіркам змераў ён з ног да галавы сваю спадарожніцу і праз зубы працадзіў: "Горны арол на ўсякую косць не кідаецца!"... Жанчына засталася на беразе адна.

Нацыянальныя адносіны – справа тонкая!

### "Не ад радыяцыі мы мром..."

1 мая 1986 года была мая чарга несці вахту ў прыёмнай першага сакратара Мінскага абкама партыі Анатоля Малафеева. Сам гаспадар кабінета быў у гэты час на трыбуне святочнай дэманстрацыі каля Дома ўрада. Прайшло пяць дзён пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Таму не здзівіла, калі зазваніла "вяртушка" і голас у трубцы прапанаваў запісаць радыяцыйны фон.

Захоўваю лісток з запісам таго часу: Салігорск – 0,07 мілірэнтген; Любань – 0,08; Мінск – 0,025; Пухавічы – 0,025. Прызнацца, на той час мне мала што гаварылі гэтыя мілірэнтгены. Разбірацца стаў у іх, калі ў 1991-95 гадах кіраваў Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыяй па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры ў раёнах, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і хадзіў па забруджанай зоне з дазіметрам.

Тады ж я пачуў вынесеныя ў загаловак словы на радзіме Аркадзя Куляшова ў вёсцы Самацеевічы Касцюковіцкага раёна ад мясцовага жыхара: "...Мром ад таго, што сэрца і душа баліць, калі бачыш, што сталася з сядзібай, у якую ўклаў столькі працы".

Як з ім не пагадзіцца, калі бачыш у адселенай зоне ў сенцах пакінутых хат новыя аконныя рамы, якія не паспелі пафарбаваць і паставіць з прыходам цяпла; недабудаваную кафляную печ; недаплеценыя рыбацкія снасці і кінутую лодку ў прыпрыпынскай вёсцы; зарослы дрэвамі заезд у гараж...

> **Якое сэрца не забаліць у гаспадара, калі бачыць, як марадзёры расцягалі ўсё, што гадамі здабывалася мазалём?**

Меў не вельмі прыемную магчымасць назіраць вынікі руплівасці апантаных гэтай ганебнай справай. На першым этапе гэта былі "несуны": выносілі прыхапкам пакінутую вопратку, посуд, радыёпрыёмнікі, тэлевізары, хатнія прылады, электралічыльнікі ... На другім – ужо былі з падводамі і грузавікамі: вывозілі халадзільнікі, газавыя пліты, мэблю. Далей дайшлі да таго, што сталі ўзрываць на дошкі падлогу, здымаць з дахаў шыфер, разбіраць печы і вывозіць цэглу.

Не ведаю, што там засталося, даўно не быў у тых месцах. Як было не паспачуваць "самасёлам" у забароненай зоне, якія хаваліся па завуголлях, калі бачылі заехаўшы ў вёску аўтамабіль. Зусім як у вайну ад немцаў.

Толькі дзікім кабанам там раздолле, але і іх часам напаткае бяда. Доўга не мог адчыніць дзверы ў пакой адной хаты. Калі натужыўся і нарэшце адціснуў іх, то ўбачыў на падлозе вялікага дзіка. Бедалага зайшоў у хату, каб нечым пажывіцца, ды лычам неасцярожна прытуліў дзверы, а адчыніць, каб выйсці, не хапіла спрыту.

Як не забаліць душа, калі бачыш, які зніштачальны ўдар нанесла аварыя па надзвычай багатай палескай народнай культуры. Дзякуючы плённаму ўзаемадзеянню з супрацоўнікамі Інстытута этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, падзвіжніцтву мастака **Віктара Фёдаравіча Шматава**, многае ўдалося сабраць, адмыць ад радыяцыі і абсталяваць экспазіцыю выратаваных каштоўнасцяў у акадэмічным музеі старажытнай беларускай культуры.

Нямала папрацавалі на гэтай небяспечнай для здароўя ніве навукоўцы Інстытута мовазнаўства, Музея народнай культуры і архітэктуры, рэспубліканскага Белвідзацэнтра. Была актывізаваная работа ў гэтым напрамку супрацоўнікаў музеяў, іншых культурна-асветных устаноў Нараўлянскага, Хойніцкага, Брагінскага, Слаўгарадскага, Касцюковіцкага, Чэрыкаўскага, Быхаўскага раёнаў, аказаная ім фінансавая дапамога з дзяржаўных сродкаў на выратавальныя мерапрыемствы.

26 красавіка 2016 года споўнілася 30 гадоў як здарылася чарнобыльская катастрофа. Тры дзесяцігоддзі распаду радыеактыўных выкідаў на нашу прыгожую і ўрадлівую зямлю, і канца вызвалення яе з радыяцыйнага палону не відаць. Там, у зоне, чарнобыльская бяда бачыцца інакш, чым з мінскага асфальту. Значна трагічней.

17 кастрычніка 1990 года прачытаў у"Праўдзе", што 1 мая 1986 года радыяцыйны фон у Мінску быў 0,06 мілірэнтген, што амаль у два з паловай разы больш, чым той, аб якім мне патэлефанавалі. Значыць, камусьці было трэба зводзіць у зман не толькі простых жыхароў, але і такую высокую ў 1986 годзе інстанцыю, як Мінскі абкам партыі?

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандытат гістарычных навук.**

**Чытайце ў заключнай частцы:**
*** Як на мэблевай фабрыцы ў Маладзечне немцаў прымалі.**

**Пра аўтара. Міхаіл Філістовіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Рэдзькавічы на Вілейшчыне. Кандыдат гістарычных навук. У 1963-1982 гг. працаваў у адукацыі і парторганах Вілейшчыны, Маладзечаншчыны, Мінскай вобласці. З 1988 г. – Мінскай вышэйшай партыйнай школе, у 1989-1991 гг. – інструктар, загадчык сектара ЦК КПБ. У 1991-1995 гг. – кіраўнік Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыі па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры ў раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Ад 1995 г. – у вышэйшых кантрольных органах Беларусі. Жыве ў Мінску.

### КАЛЯНДАР

10 ВЕРАСНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Георгія Парсаданава (1911 – 1989), заслужанага архітэктара Беларусі. Сярод усяго іншага, ён з калектывам архітэктараў спраектаваў забудову курортнай зоны возера Нарач.

**100 гадоў** з дня смерці Аляксандра Ельскага (1834 – 1916), беларускага гісторыка, этнографа, краязнаўца, пісьменніка, перакладчыка, публіцыста. Адзін з першых гісторыкаў беларускай літаратуры і збіральнікаў беларускіх рукапісаў. Стаў патрыярхам прафесійнага беларусазнаўства ў канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя. У 1890 годзе зрабіў вершаваны пераклад на беларускую мову першай часткі польскамоўнай паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" і надрукаваў яго ў 1893 г. (на вокладцы – 1892 г.) у Львове (Аўстра-Венгрыя). Аляксандр Ельскі быў занепакоены маральным і матэрыяльным станам сялянства ў Беларусі. Вёў настойлівую барацьбу супраць п'янства, заганных з'яў у паводзінах і побыце людзей. Ён марыў, каб у кожнай вёсцы замест карчмы з гарэлкай з'явіліся корчмы, дзе можна будзе вяскоўцу-гаспадару вольным часам добра паесці, папіць піва, пачытаць газеты і кніжкі і пагутарыць з аднавяскоўцамі аб патрэбах вёскі. Хацеў, каб вясковы люд імкнуўся "рупіцца", "больш цывілізавацца".

11 ВЕРАСНЯ

**Дзень памяці ахвяр фашызму.**

**1841 год.** У в. Коркіна (цяпер Іркуцкая губ.) на пасяленні пасля катаргі памёр Міхаіл Рукевіч, удзельнік вызваленчага руху, філамат.

У мястэчку Будслаў Вілейскага павета, цяпер Мядзельскі раён, нарадзілася Паліна Мядзёлка (1893 – 1974), беларуская дзяячка культуры, актрыса, мемуарыстка.

12 ВЕРАСНЯ

У вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна нарадзіўся Рыгор Семашкевіч **(1945 – 1982)**, паэт, празаік, літаратуразнаўца, крытык.

14 ВЕРАСНЯ

**110 гадоў** з дня выхаду (1906) газеты "Наша доля", першага легальнага перыядычнага выдання на беларускай мове (выходзіла да 14 снежня 1906 года ў Вільні).

**110 гадоў** назад (1906) адбылося першае выступленне ў друку Якуба Коласа (верш "Наш край" у газеце "Наша доля").

15 ВЕРАСНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Юліі Таўбіна (1911 – 1937), беларускага паэта.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Толькі падчас разводу я даведаўся,

## Развод: лічбы, гісторыі, парады

**Развод – тэма, якую асабліва не закранаюць у размовах, калі толькі сам чалавек не хоча падзяліцца сваімі пачуццямі, каб пазбавіцца ад негатыву. Бо за кожнай жыццёвай сітуацыяй стаяць перажыванні, разбітыя надзеі. Калі доўгім і трывалым шлюбам ганарацца, то разводам асабліва не пахвалішся, хаця і прайшлі часы, калі гэтага саромеліся.**

Мы вырашылі паразмаўляць на гэту тэму з рознымі спецыялістамі, каб высветліць, што стаіць за гэтым балючым словам.

### Тры дні ў шлюбе – і вырашылі развесціся

– Нашы спецыялісты павінны быць яшчэ і вельмі добрымі псіхолагамі, – адзначае начальніца аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама **Ала Івашкевіч**. – Варта своечасова ўбачыць: сапраўды людзі хочуць разысціся альбо гэта робіцца пад уплывам злосці.

Часам пары, якія мала пажылі ў шлюбе, пасля першай жа спрэчкі бягуць у ЗАГС, але цяпер ужо не за запаветным штампікам.

– У адзін з аўторкаў залятае да нас маладзенькая дзяўчына і адразу з парога – дайце мне заяву на развод, – узгадвае начальніца ЗАГСа. – А я ж памятаю, што толькі ў пятніцу пара распісалася, што, за выхадныя нажыліся? Сказала, каб прыходзіла разам з мужам, толькі тады прыму заяву. Але не вярталася, хутчэй за ўсё, памірыліся.

Як заўважае спецыяліст, раней больш сур'ёзна падыходзілі да шлюбаў, стараліся прыстасавацца адзін да аднаго. Цяперашняя моладзь, калі што не так, знаходзіць хуткае выйсце – разбегчыся.

Неяк у ЗАГС прыйшла пара пісаць заяву на развод. Спецыяліст задала ім толькі адно пытанне: чаму вырашылі развесціся. І тут пачалося: яна пачала абурацца, што муж пры першай жа няўдачы паскардзіўся маме. Тая адчытала нявестку. Паразмаўляўшы пры староннім чалавеку, маладыя зразумелі, што хочуць быць разам. Проста трэба размяжоўваць, што можна расказаць бацькам, а што лепш вырашыць самім, а калі накіпела, лепш адразу выказацца.

– Калі будзе хоць адзін такі выпадак з дзесяці, што мы дапамаглі знайсці паразуменне паміж мужам і жонкай, упэўнілі не разводзіцца, – гэта ўжо поспех, – адзначае Ала Івашкевіч. – Калі бачым, што сям'і не хапае элементарнага – пагаварыць сам-насам, выказацца, раю звярнуцца да псіхолага. Часта абураюцца: "Мы што, псіхі?!" Тлумачу, што раю псіхолага, а не псіхіятра. Ён павінны не вылечыць вас, а дапамагчы знайсці паразуменне.

### Разводзіліся і жаніліся чатыры разы

Спецыяліст узгадвае, што была пара, якая разводзілася і сходзілася чатыры разы. Пасварацца – разводзяцца, памірацца – ідуць па штамп.

– У маладым узросце, па маіх назіраннях, ініцыятарамі разводаў становяцца жанчыны, у сталых шлюбах – мужчыны, – расказвае Ала Івашкевіч. – Прычына – заказаўся ў другую. Калі ж на развод падаюць жанчыны пасля доўгіх гадоў сямейнага жыцця, у многіх выпадках муж п'е. Яны доўга цярпяць, аднак некалі чаша перапаўняецца, у выніку – развод.

**А вось прыказцы "не выходзь замуж у маі – усё жыццё будзеш маяцца" спецыяліст ЗАГСа не дае веры.**

Па яе словах, у гэтым месяцы не большая колькасць разводаў, чым у іншых. Можа, людзі і мучацца, аднак заявы на развод не прыносяць.



Маладым сем'ям неабходна адразу выказваць незадаволенасць адно ў сабе, тады цяжка знайсці паразуменне. І большасць выбірае развод.

## Развод у лічбах

- 1-2 месяцы – такі тэрмін пасля падачы заявы даюць сямейнай пары на тое, каб яны захавалі сям'ю.
- 2 месяцы – такі час у шлюбе пражылі сёлета тры пары. Гэта пакуль самы непрацяглы тэрмін сямейнага жыцця.
- 10 – столькі ў сярэднім разводаў у ЗАГСе за месяц па ўзаемнай згодзе і калі няма дзяцей і скаргагаў на маёмасць.
- 35 – сярэдні ўзрост большасці жанчын, якія разводзяцца.
- 38 – сярэдні ўзрост большасці мужчын, якія разводзяцца.
- 84 рублі – столькі каштуе працэдура разводу.
- 253 – столькі разводаў прыпадае на 413 шлюбаў. Нават больш, чым кожны другі шлюб, распадаецца (дадзеныя за 7 месяцаў 2016 года).
- 32 984 – столькі шлюбаў скасавалі ў краіне ў 2015 годзе.
- 2000 год – паводле афіцыйнай статыстыкі, на гэты час прыпадае пік разводаў. Тады развяліся 43 тысячы 512 чалавек. Больш за ўсё скасавалі разводаў у Мінску – 8 406.

## Перажыванні пры разводзе падобныя, я

– Калі сямейнае жыццё было доўгім і мела вялікае значэнне, то нечаканы разрыў – стрэс, – тлумачыць псіхолаг **Таццяна Жданава**. – Перажыванні падобныя на тыя, што пасля смерці блізкага. У нейкім сэнсе развод – "смерць сям'і".

Пасля расстання патрэбны час, каб загаіць душэўныя раны. Адразу чалавек знаходзіцца ў фазе шоку: цяжка паверыць, напрыклад, у здраду; што муж падаў на развод. Гэты стан можа доўжыцца некалькіх хвілін, але часцей каля 10-12 дзён.

– Добра, калі ў гэты перыяд побач будуць сваякі, сябры, людзі, якім можна расказаць пра свае няшчасце, – адзначае псіхолаг. – Паплачце ўволю, калі будзеце расказваць пра свае перажыванні. Разам са слязьмі будзе выходзіць і няшчасце, якое вас напаткала.

Затым наступае фаза дэпрэсіі (8-9 тыдняў). У гэты перыяд прыходзяць супрацьлеглыя пачуцці: віна за тое, што не ўтрымала мужа (жонку), не захавала сям'ю, боль, крыўда.

– Душэўныя мукі, як правіла, заканчваюцца, калі чалавек перастае абвінавачваць у няўдачы толькі сябе, – адзначае псіхолаг. – Не канцэнтруйцеся толькі на сваіх перажываннях, падумайце пра сваю будучыню і будучыню дзяцей.

Пасля гэтага этапу наступае фаза рэшткавых з'яў (прыкладна год пасля разводу).

– Адчуванне гора можа ўзнікаць пасля эмацыйных узрушэнняў, напрыклад, выпадковая сустрэча з мужам, першы дзень нараджэння без яго, – заўважае Таццяна Жданава. – З аднаго боку, гэта напамін пра страты, з іншага, магчымасць прывыкаць да новых адносін.

Фаза завяршэння наступае прыкладна праз год пасля разводу. Цяпер чалавек перажывае не гора, а адчувае сум. Але пастунова выпрацоўваецца звычка самастойна спраўляцца з праблемамі, аднаўляецца самапавага. Праз годда ўзнікае патрэба ў новых адносінах. Нечакана для сябе вы пачынаеце распраўляць плечы і з надзеяй глядзець у будучыню.

# , што жонка двойчы была замужам




адным, гавараць, што не задавальняе. Маўчанне прыводзіць да таго, што вы закрываецеся

### Частыя камандзіроўкі, сяброўкі мужа сталі прычынай разводу

**Наста, 30 гадоў**.

Пара пражыла ў шлюбе паўтара года. На развод падала Наста.

– Па пашпарце мы муж і жонка, а на самой справе як і не выходзіла замуж, – расказвае Наста. – У мужа частыя камандзіроўкі, паедзе на два тыдні, а я, як кажуць, і не дома, і не замужам. А вернецца дамоў, пачынаюцца сустрэчы з сяброўкамі, невядомыя званкі. Зразумела, што я нервавалася, паводзіны мужа раздражнялі.

Спачатку пара вырашыла не заводзіць дзяцей, так пражылі недзе паўгода. Пасля гэта пытанне зноў паўстала – муж не хацеў абцяжарваць сябе дзецьмі, хацеў пажыць для сябе.

– Так доўга працягвацца не магло, – з болю ўзгадвае жанчына. – Якая гэта сям'я, калі няма дзяцей. Доўга вагалася, перш чым падаць на развод. Сказала пра гэта мужу, ён як быццам быў не супраць.

Калі жанчына падала заяву, пераехала да сястры. У ЗАГСе далі адтэрміноўку на тое, каб захаваць сям'ю.

– У гэты час многае перадумала, пачала капацца ў сабе, апраўдвала яго, – узгадвае Наста. – Калі б ён прыклаў намаганні, знайшлі б кампраміс, бо я старалася памірыцца. Сям'ю можна было б выратаваць. Ён нічога не зрабіў...

На судзе прэтэнзіі Насты былі зразумелыя. Чаму муж пагаджаецца на развод і чым ён незадаволены, не маглі высветліць. Не сышліся характарамі, сказаў ён, аднак у мяне вельмі добрая жонка, мяне яна цалкам задавальняе.

Пасля таго, як сям'я разышлася, у кожнага з'явіліся новыя адносіны.

– Дзіўна, але ў шлюбе ён ні ў якім разе не хацеў дзяцей, – разважае Наста. – А тут стаў жыць з дзяўчынай і яна зацяжарала, але не жаніўся. Пасля разводу мы часам сустракаемся, размаўляем, ён скардзіцца на жонку, на сумеснае жыццё. І хацеў бы вярнуцца, аднак час ужо прайшоў, тым больш у яго дзіця. Я не буду разбураць сям'ю.

### І цяпер не разумею, чаму жонка вырашыла развесціся

**Станіслаў, 30 гадоў**.

Мужчына з будучай жонкай сустракаўся чатыры месяцы. Спачатку сталі жыць разам, пасля ажаніліся. Вырашылі не рабіць пышную ўрачыстасць, проста распісаліся.

Пасля гэтага маладая паехала ў іншы горад да сваіх бацькоў, каб вырашыць некаторыя праблемы. А праз некалькі дзён званок: "Ведаеш, Стас, мы паспяшаліся распісацца. Я не хачу гэтых адносінаў, нам варта развесціся," – адзначыла жанчына.

Мужчына быў у шоку: не разумеў, што адбываецца, што паўплывала на рашэнне жонкі. Імкнуўся разабрацца, але безвынікова.

– Праз некаторы час паспрабаваў высветліць сітуацыю, – расказвае Станіслаў. – І што самае дзіўнае: прапанавала, каб падаў на развод менавіта я. Чаму? Ты – ініцыятар, табе і карты ў рукі. І тут выплыла, што яна ўжо два разы была замужам. А з колькасцю новых разводаў павялічваецца дзяржаўная пошліна на чарговы развод.

Перш чым пара развялася, жонцы трэба было дачакацца пашпарта, які мянялі, бо яна ўзяла прозвішча мужа. Развялі іх праз месяц. Аднак і сёння мужчына не разумее, чаму яго каханая так хутка памяняла рашэнне.

– Напэўна, чатырох месяцаў мала, каб даведацца больш адно пра аднаго, лепш зразумець, – дзеліцца досведам Станіслаў. – Перш чым ісці ў ЗАГС, высветліце, ці супадаюць у вас планы на будучыню, інтарэсы з другой палавінкай. А то ў вашым уяўленні будзе адна карцінка шчаслівай будучыні, а ваш абраннік ні сном ні духам пра гэта.

### Я знайшла сілы пачаць новае жыццё

**Антаніна, 60 гадоў**.

З мужам яна пражыла 23 гады, нарадзіла двое дзяцей – сына і дачку. Аднак апошні час жыць стала проста немагчыма.

– Па-першае, мы не былі зробленыя з аднаго цеста, – разважае Антаніна. – Трэба, каб у мужа і жонкі былі аднолькавыя інтарэсы, планы на жыццё. Як аказалася, мы былі розныя. Да гэтага дадалося яшчэ і тое, што муж піў. А выпіўшы, ён станавіўся буйным, гаварыў лухту, чапляўся да мяне, да дзяцей.

Жанчына доўга трывала, аднак у адзін момант цярпенне лопнула.

– Я папярэдзіла, калі сітуацыя не зменіцца, падам на развод, – адзначае Антаніна. – Прайшло паўгода, аднак усё засталося па-ранейшаму. І я прыняла канчатковае рашэнне – развод. Муж першы час спрабаваў выратаваць сітуацыю, аднак ён карыстаўся не тымі метадамі, вяртацца да былога не хацелася.

Дзеці Антаніны былі дарослыя, ужо вучыліся ва ўніверсітэтах, таму падтрымалі маці. Разумелі, што так жыць нельга. З раздзелам маёмасці пытанняў не паўстала. Муж застаўся ў Мінску, жанчына пераехала ў Валожын, стала абуладкоўваць жыллё.

> **– Развяліся – і як быццам адкрылася другое дыханне, – адзначае Антаніна. – Вырашыла, што буду будаваць сваё жыццё самастойна, так, як я хачу, а не спадзявацца, што муж зменіцца і адносіны наладзяцца, гэта ілюзія, у якую вераць многія жанчыны.**

Праз некаторы час у жыцці Антаніны з'явіўся іншы мужчына. Спачатку яна не ўспрымала ніяк гэтыя адносіны, аднак той быў настроены сур'ёзна.

– Гэта быў зусім іншы чалавек, з іншым выхаваннем, – расказвае жанчына. – Мне з ім было проста, утульна і камфортна, упершыню за многа гадоў я адчула сябе прывабнай, патрэбнай. А гэтае многае значыць, як кажуць, выраслі крылы. З ім я адчула, што магу быць шчаслівай. Мы разам ужо 16 гадоў.

Жанчынам, якія вагаюцца – захоўваць сям'ю альбо падаць на развод, Антаніна дае наступную параду:

– Сям'ю павінны захоўваць двое, а не адзін чалавек. У такім выпадку нічога не атрымаецца. Цяжка ўвесь час цярпець прыніжэнні, старацца прыстасавацца. Знайдзіце ў сабе сілы пачаць новае жыццё – і ўсё атрымаецца.



**Галіна Суднiковіч**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

## к пасля смерці блізкага

### Як перажыць развод лягчэй

1. **Сыходзіш – сыходзь.**

Не шукайце сустрэч з былым мужам (жонкай). Зразумела, што хочацца высветліць адносіны. Аднак у гэты час вы не зможаце размаўляць без буры эмоцый і абвінавачванняў, якія прынясуць негатыўныя перажыванні.

2. **Дзейнічайце**.

Старайцеся адразу памяняць абстаноўку, можаце пачаць рамонт, перасунуць рэчы.

3. **Бурная весялосць не дапаможа**.

Ніякіх шумных вечарынак і клубаў у першы час, пачакайце. На першы погляд падаецца, што весялосць дапаможа забыцца на праблемы. Магчыма, і так, аднак ненадоўга, дэпрэсія накрые вас з новай сілай.

4. **Тэрмінова ў салон прыгажосці**.

Займіцеся сваёй знешнасцю. Гэта дапаможа аддаліцца ад праблемаў – унутраны і знешні стан цесна ўзаемазвязаныя.

5. **У адну і тую ж раку двойчы не ўвайсці**.

Амаль усе жанчыны пасля разводу хочуць вярнуць мужа, могуць дараваць усё. Не паддавайцеся гэтаму жаданню. Калі праз паўгода яно не знікла, можаце паспрабаваць наладзіць адносіны.

6. **Клін клінам – не працуе**.

Першы час не старайцеся заводзіць раманаў. Яны асуджаныя на няўдачу. Новага абранніка вы будзеце падсвядома параўноўваць з былым мужам.

7. **Сон** дапамагае ад усіх хваробаў, у тым ліку і ад душэўных. Якасны сон хутчэй адновіць душэўную раўнавагу.

8. **Не тапіце гора ў алкаголі** – ён абвострыць дэпрэсію. Даказана, што пасля разводу жанчыне пагражае магчымасць спіцца – абыходзьце спіртное.

9. **Не вінавацьце сябе**.

– Перажыць развод на самой справе не так страшна, як гэта здаецца на першы погляд, – заўважае спецыяліст. – Трэба ўзяць сябе ў рукі і не патураць слабасцям. Не замыкаецеся ў сабе – лепшае наперадзе.

# У маладзечанцаў адкрываецца другое дыханне

МАЛАДЗЕЧНА

**Пасля паразы ад пінскай "Хвалі", якая спыніла зайздросную 8-матчавую пераможную серыю "Маладзечна-ДЮСШ-4", Аляксандр Гармаза прадказваў камандзе пачатак новай пераможнай серыі.**

**"Маладзечна-ДЮСШ-4" – "Мантажнік" (Мазыр) 3:1**

Колькасць гледачоў – 150 чалавек.

**Галы забівалі:**

Сяргей Дрозд ("Маладзечна-ДЮСШ-4"), 8 хвіліна – 1:0

Ігар Талькоўскі ("Маладзечна-ДЮСШ-4" ), 27 хвіліна – 2:0

Ігар Талькоўскі ("Маладзечна-ДЮСШ-4"), 56 хвіліна – 3:0

Ягор Дзяско ("Мантажнік"), 90 + 1 хвіліна – 3:1

"Вертыкаль" з Калінкавічаў у мінулым туры парушыла планы маладзечанцаў, а вось "Мантажнік" з Мазыра не змог.

Гульня на гарадскім стадыёне адбылася 3 верасня. І прайшла яна з прыкметнай перавагай гаспадароў.

Гулец маладзечанскай каманды **Юры Пустаход** разам з **Дзмітрыем Касцюком і Паўлам Галубовічам** забяспечылі "панаванне" ў сярэдзіне поля, **Ігар Талькоўскі** стаў менш захапляцца індывідуальнай гульнёй, і атакуючая гульня каманды гаспадароў "пакаціла". Удавалася яна падначаленым Аляксандра Гармазы аж да чарговага выдалення **Мікіты Харко,** які згуляў за варатара. Мяч, які ляцеў у пустыя вароты, Мікіта Харко адбіў рукой.

Пасля выдалення і пенальці, што адбіў **Антон Галгоўскі**, госці гульню выраўнялі.

Але да таго часу лік быў 3:0. Ужо ў дэбюце матча **Сяргей Дрозд** з вострага вугла падсечкай перакінуў мяч у далёкі кут варот "Мантажніка".

У сярэдзіне першага тайма і ў пачатку другога сваю справу зрабіў **Ігар Талькоўскі.**

Адным з герояў матча стаў 20-гадовы галкіпер каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4" Антон Галгоўскі.

**– Цябе моцна ў гульні напружваў сапернік?**

– Не вельмі, былі два небяспечныя моманты і пенальці.

**– Як пенальці парыраваў? Адгадаў або рэагаваў?**

– Угадаў. **Будовіч** прабіў у левы ад мяне кут. Скокнуў і дастаў.

Пасля гульні матч пракаментаваў таксама і футбаліст "Мантажніка" **Яўген Куляшэвіч**:

– Гэта была горшая наша гульня, паўтара тайма да выдалення ў складзе маладзечанцаў сядзелі ў абароне. У гаспадароў поля было шмат галявых момантаў. Асабліва адзначу левага паўабаронцу Юрыя Пустахода, які напружваў броўку ўсе два таймы, і нападніка Ігара Талькоўскага, вельмі тэхнічнага гульца. Пасля выдалення мы перайшлі да больш актыўных дзеянняў, стварылі добрыя моманты і забілі гол. У Маладзечне добрая каманда.

Пасля перамогі над камандай з Мазыра маладзечанцы займаюць трэці радок турнірнай табліцы з 31 ачком. Другое месца цяпер за камандай з Асіповічаў, у іх 34 ачкі.

Маладзечанцы згуляюць супраць каманды з Асіповічаў у гэтую суботу. Матч прынцыповы, прапускаць яго сапраўдным аматарам футбола нельга.

**Наталья ТУР.**




**Афіша гульні, якая адбудзецца ў пятніцу, 9 верасня, зробленая фанатамі каманды.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" перамагае і ў меншасці

СМАРГОНЬ

Адбылося гэта ў матчы з "Баранавічамі" – камандай, якая займае перадапошняе месца чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Гульня адбылася 4 верасня ў Смаргоні.

Лік гаспадары адкрылі ўжо на 11-й хвіліне. Гол забіў **Аляксандр Клешчанок**. Пасля навесу **Паўла Люцько** ён ударыў галавой з раёна 11-метровай адзнакі і злавіў варатара гасцей на супрацьходзе. Праз 17 хвілін **Віталь Ганіч** прайшоў уздоўж лініі штрафной і трапным ударам падвоіў перавагу.

У канцы першага тайма госці адзін мяч адквіталі з пенальці. За фол у штрафной суддзя выдаліў гульца "Смаргоні".

Але ў меншасці смаргонцы не дазволілі сапернікам зраўняць лік – наадварот, павялічылі перавагу. У пачатку другога тайма два галы забіў жа той жа Віталь Ганіч. Госці змаглі забіць яшчэ толькі адзін гол на 60-й хвіліне. Да канца матча лік так і застаўся 4:2.

"Смаргонь" узнялася на пятае месца. Мае каманда 26 ачкоў. На шэсць ачкоў адстае ад "Гомельчыгунтранса", які ідзе трэцім. Якраз з гэтай камандай смаргонцы згуляюць у гасцях 10 верасня.

## Выбралі найлепшага гульца жніўня

СМАРГОНЬ

Па выніках галасавання ў афіцыйнай групе "Смаргонь" "Укантакце" лепшым гульцом клуба ў жніўні стаў нападаючы **Аляксандр Клешчанок**. Ён набраў больш за палову галасоў.

На другім месцы паўабаронца **Аляксей Тараканаў**. На трэцім – паўабаронца **Максім Яблонскі**, расказаў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**.

Нагадаем, у ліпені лепшым гульцом прызнавалі **Віталя Ганіча**.

## "Ашмяны" прайгралі 0:4

АШМЯНЫ

ФК "Ашмяны" працягвае серыю пройгрышаў. Каманда 3 верасня ў гасцях гуляла са "Смалявічамі-СТГ" і саступіла 0:4. Усе галы прапусцілі ў другім тайме. Прычым два – на апошніх хвілінах матча.

Каманда з чатырма ачкамі займае апошняе месца ў першай лізе. У чэмпіянаце "Ашмяны" прайгралі 15 матчаў з 17.

## Ашмянскі паўэрліфтар заваяваў бронзу на чэмпіянаце свету

АШМЯНЫ

У горадзе Шчырк у Польшчы ад 29 жніўня да 3 верасня праходзіў чэмпіянат свету па паўэрліфтынгу сярод юнакоў і дзяўчат.

Удзельнічалі ў ім два ашмянцы. **Альберт Станкевіч** стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату свету ў вагавой катэгорыі да 53 кілаграмаў сярод юнакоў 1998 гадоў нараджэння і маладзейшых. Яго сума ў трохбор'і – 335 кг. Таксама Альберт стаў трэцім у прысяданні і заваяваў малы бронзавы медаль.

**Крысціна Шлыковіч** у вагавой катэгорыі да 52 кілаграмаў сярод дзяўчат паказала чацверты вынік, паведамляе dynamo.by.




**Падчас цырымоніі ўзнагароджання пауэрліфтэраў.**

## Віляйчане згулялі ўнічыю з адным з лідараў

ВІЛЕЙКА

"Вілія" з Вілейкі дома 3 верасня гуляла з адным з лідараў чэмпіянату – "Хімікам-Беларуськаліем" з Салігорска.

Першы тайм скончыўся без галоў. А ў другім віляйчане павялі 2:0. У пачатку тайма ў вароты салігорцаў уляцеў аўтагол, а пазней вызначыўся **Дзмітры Вышынскі**.

Але ў канцы матча госці змаглі двойчы паразіць вароты віляйчан. Нічыя 2:2.

– Матч быў цікавы, хоць і праходзіў пад дажджом. Салігорская каманда была больш актыўнай, чым наша, але ў другім тайме віляйчане дадалі і забілі два галы, – расказаў заўзятар "Віліі" **Артур Мінчук**. – Салігорцы хоць і знаходзяцца на лідзіруючых пазіцыях у чэмпіянаце, аднак нічога звышнатуральнага не паказалі. У нас добра гуляліся **Міша Цырук, Дзмітры Вышынскі** і **Максім Чабрыцкі**, хоць нармальна адыграла і ўся каманда. Перамога была так блізка, але, на жаль, у канцы пупусцілі двойчы. Маё меркаванне: не хапіла лаўкі запасных. Столькі шмат заяўленых, а гуляць няма каму. Верым у каманду далей!

"Вілія" па-ранейшаму ідзе дзясятай. Наступным матч таксама правядзе дома: 11 верасня супраць "Узды" .

**Аддзел інфармацы.**

## Беларускія стравы і майстар-клас: што чакае ўдзельнікаў велапрабегу

ВІЛЕЙКА

17-18 верасня на Вілейшчыне зладзяць велапрабег, прысвечаны Дню бібліятэк.

Падарожжа па кніжніцах Вілейскага краю пачнецца ў 10:00 ад бібліятэкі сямейнага чытання ў Вілейцы.

У Крывым Сяле мясцовыя майстры сельскага Дома культуры правядуць з вандроўнікамі майстар-клас па вырабе сувеніраў з саломкі. А сельскія бібліятэкары запросяць на "смачную" выставу. Тут наведнікі пакаштуюць стравы, якія згадваюцца ў творах беларускай літаратуры.

Наступныя пункты ў падарожжы – Рабунь і Касута. Наведаюць таксама і Абадоўцы. Бібліятэкі тут няма некалькі год, але захаваліся гаспадарчыя пабудовы колішняга абадоўскага пана Мечыслава Багдановіча.

У Ільі сельская бібліятэка месціцца ў мясцовай школе. Удзельнікаў падарожжа тут запросяць на экскурсіі ў школьныя народныя музеі "Ільянскія даляглядаы" і "Вілейшчына літаратурная".

Бліжэй да вечара велатурыстаў сустрэнуць у дзіцячым аздараўленчым цэнтры "Надзея". Тут запланаваны экскурсія і начлег.

18 верасня вандроўнікі пазнаёмяцца з вёскай Вязынь і яе цікавосткамі і вернуцца ў Вілейку.

Пра гэта распавяла загадчыца аддзела маркетынгу Вілейскай бібліятэкі **Іна Лазар**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




СМАЧНА ЕСЦІ

## Аматарам вастранькага варта пакаштаваць індыйскі дал

**Валожынка Вікторыя Дударовіч не любіць аднастайных страў, таму заўсёды ў пошуках новага. Яна падзялілася рэцэптам індыйскага далу з рысам.**

Дал – традыцыйны вегетарыянскі індыйскі суп-пюрэ з разваранных бабовых. Часам для смаку дадаюць парашок кары, какосавае малако, лімонны сок, памідоры, часнок і абсмажаную цыбулю. Традыцыйна страва падаецца з цёплымі аладкамі.

**Ігрэдыенты:** *шклянка сачавіцы, дзве шклянкі вады, вялікая цыбуліна, перац чылі, часнок (люблю вострае, таму дадаю больш), паўслоіка таматнага соусу ці пару свежых памідораў, куркума, кары, алей, соль, зеляніна.*

Кары раблю сама, дадаю куркуму, зіру, каляндру, па жаданні гарчыцу, імбір, часнок, мускатны арэх, чорны і чырвоны перцы, кардамон.

**Спосаб прыгатавання:** нарэзаць цыбулю і перац чылі, прамыць сачавіцу. Выкласці яе ў каструлю, туды ж наверх слоем цыбулю, перац і куркуму. Уліць ваду і варыць на моцным агні, без накрыўкі, не перамешваючы. Як закіпела, зменшыце агонь, накрыйце. У гэты час растаўчыце спецыі для кары, можна купіць і гатовую прыправу. Падсмажце яе з часнаком на алеі 30 секунд, каб спецыі далі пах і смак.

У каструлю да гатовай сачавіцы дадайце таматны соус ці памідоры, спецыі, соль і варыце яшчэ дзесяць хвілін на слабым агні. У самым канцы можна дадаць зеляніны.

Індыйскі дал гатовы. Падаем яго з рысам, можна з грэчкай ці іншай кашай.

**Паводле Вікторыі ДУДАРОВІЧ.**

Падзяліцеся рэцэптам фірменнай стравы з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту region-news@rh.by, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "Глушэц", якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.


Фота films-mobile.ru.

Кадр з фільма "Бен-Гур".

## Раб супраць імперыі: што глядзець у кінатэатрах

КІНО ВІЛЕЙКІ І МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі і вілейскі кінатэатры запрашаюць на эпічны прыгодніцкі фільм "**Бен-Гур**", які паставіў рэжысёр з Казахстана Цімур Бекмамбетаў, чые сваякі па лініі маці ідуць ад яўрэяў, загінулых у Беларусі на Другой сусветнай.

У карціне гледачоў чакае яскравая гісторыя нашчадка вядомага яўрэйскага роду Бен-Гура. Яму здрадзіў лепшы сябар-рымлянін.

Правёўшы шмат гадоў у рабстве на рымскіх галерах, Бен-Гур вяртаецца на радзіму, каб адпомсціць здрадніку.

Карціна пастаўленая па рамане "Бен-Гур: гісторыя Хрыста". Аднайменны фільм ужо здымаў Галівуд у 1959 годзе, сабраў 11 "Оскараў" і выратаваў кампанію-распрацоўшчыцу ад банкруцтва.

Таму першакрыніца абяцае захапляльны сюжэт, рэжысёр бясспрэчна здзівіць гледача, а бюджэт апраўдае шыкоўная візуальная частка ў 3D. Кіно спадабаецца аматарам калягістарычных сюжэтаў, батальных сцэн і гераічных персанажаў.

Японскі мультфільм "**Гамба**" распавядае пра мышаня, якое жыве ў мегаполісе. Але гэтае мышаня чакаюць прыгоды, непрыемнасці і новая сям'я.

Гамба з сябрамі адпраўляецца на востраў у акіяне, каб выратаваць мышыную вёску, на якую нападаюць злыя тхары. Мышаня чакаюць і небяспечныя бітвы, і сустрэча з прыгажуняй, якая завалодае яго сэрцам.

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

"Радзіма" прапануе аматарам баявікоў трылер "**Джэйсан Борн**". Свет на мяжы катастрофы, і самы час вярнуцца да спраў элітнаму суперагенту.

Акцёр Мэт Дэйман бліскае ў галоўнай ролі, а што тычыцца сюжэту, то ў ім ёсць усё, што любяць аматары гісторый пра шпіёнаў.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 6 | 3 | | | | 5 |
| | | 8 | | | 4 | | | |
| | | | | | | 9 | 4 | 3 |
| | | 1 | | 4 | | | 2 | |
| 6 | 5 | | | | | | 8 | 4 |
| | 8 | | | 6 | | 1 | | |
| 2 | 1 | 4 | | | | | | |
| | | | 7 | | | 4 | | |
| 7 | | | | 5 | 8 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





ГАРАСКОП
9-15 ВЕРАСНЯ


**Авен.** Ваш аптымізм будзе заражаць і навакольных. Таму старайцеся падтрымаць тых, хто цяпер павесіў нос, у каго ідуць дрэнна справы. Ваша ўвага не застанецца незаўважанай.


**Цялец.** Час будзе вельмі напружаны. Пастарайцеся раўнамерна размеркаваць планы, каб вашы сілы не былі на зыходзе, а настрой не змяніўся не ў лепшы бок.


**Блізняты.** Гэты тыдзень ідэальны для рамантычных адносінаў, знаёмстваў, любоўнага раману. Пакуль вы адносіцеся лёгка да жыцця, не загадваеце на будучыню, не звязваеце сябе абавязкамі – усё ідзе надзвычай добра. Але ва ўстойлівых адносінах можна сутыкнуцца з праблемамі, дадайце ў адносіны навізны.


**Рак.** Смела можаце пераадольваць любыя перашкоды, ісці да запаветнай мэты. Можаце рабіць тое, чаго даўно баяліся, усё атрымаецца. Зоркі на вашым баку.


**Леў.** Паспрабуйце заняцца справамі, якія сапраўды падабаюцца, з надаедлівай і няспешнай работай пачакайце. Праз некаторы час вы справіцеся з ёй лепш.


**Дзева.** Фартуна рашыла ўзяцца за вас усур'ёз: чакайце падарункі і сюрпрызы. Работа парадуе стабільнасцю, кантакты з калегамі будуць сяброўскімі. Будзе складацца адчуванне, што вы ў адпачынку, толькі правядзіце яго не на моры.


**Шалі.** Самыя складаныя справы вырашыце ў пачатку тыдня. І ў вас застанецца больш часу, каб прывесці знешнасць у парадак, адпачыць.


**Скарпіён.** Для любых пачынанняў гарыць зялёнае святло. Паспрабуйце сябе ў іншай дзейнасці.


**Стралец.** Вы будзеце працаваць з такой сілай, што ўсе здзівяцца вашаму імпэту. Пры гэтым хутка не будзе азначаць няякасна. Наадварот, ваш прафесіяналізм для раскрыецца з новага боку.


**Казярог.** Удача блізкая, застаецца толькі працягнуць для гэтага руку. Але не варта спадзявацца, што вы схопіце ўсе зоркі з неба – не выпрабоўвайце лёс.


**Вадалей.** Не стаўце рэкорды на працы. Аднак дома можаце напоўніцу паказаць тое, на што вы здольныя.


**Рыбы.** Не хавайце галаву ў пясок, усе праблемы вырашальныя, толькі для гэтага трэба прыкласці намаганні.

**Аліна ЗОРНАЯ.**

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 10 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +18 | | +11 / +19 | | +13 / +21 | | +14 / +23 | |
| | 745 | ← 2 | 746 | ↖ 1 | 746 | ↑ 4 | 746 | → 3 |
| Вільня | +13 / +20 | | +12 / +22 | | +13 / +24 | | +14 / +21 | |
| | 753 | ← 2 | 754 | ↖ 2 | 754 | ↖ 2 | 755 | ↓ 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.38
Захад 19.40
Даўжыня дня 13.02

Усход 19.37
Захад 0.16
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +3,6 °С у 1986 годзе
Максімальная тэмпература + 25,7 °С у 2005 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 35,9 мм у 1990 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Работніца Маладзечанскага водаканала падала ў суд на арганізацыю з патрабаваннем выплаціць ёй кампенсацыю ў памеры 320 мільёнаў рублёў за тое, што кіраўніцтва не забяспечыла яе кірзавымі ботамі, каб яна прайшлася па Цэнтральнай плошчы. Чым скончылася справа, чытайце праз тыдзень.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Здымак фотамастака Юрыя Горыда.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Стаматолаг пацыенту:
– Зуб я вам паставіў, дзве гадзіны не еште.
– Ды я пасля вашых цэнаў паўмесяца есці не буду!

***

Прыйшоў дзед з бабкай на аэрадром да лётчыка:
– Сынок, нам паміраць ужо хутка, а мы так за жыццё і не палятаі ні разу. Пакатай ты нас!
– Пакатаю, але з умовай. Калі закрычыш ад страху, то заплаціш мне 20 долараў.
– Дамовіліся!
Паляцелі. Лётчык што толькі ні рабіў: і мёртвую пятлю, рэзка ўніз падаў, і крэн на адно крыло – а ніхто не крычыць.
Надакучыла лётчыку, пасадзіў самалёт і пытаецца:
– Скажы, дзядуля, ці быў момант, калі ты ледзь не закрычаў?
– Ага, быў.
– Калі?
– А калі бабка выпала.

***

Ну, вось чаму ў амерыканскіх фільмах да працы людзі паспяваюць зрабіць прабежку, прыняць душ, паснедаць, праблемы абмеркаваць... А я ўстаў, памыўся і ўжо спазняюся!

***

Пасля любой п'янкі страшна глядзець на тры рэчы: у кашалёк, у люстэрка і ў зыходныя выклікі на тэлефоне.

***

Навукоўцўы даевадлсія, што не вжана, яікм чаным рсастаелўыня лратіы ўунрты солавў. Глаоўане, каб преашя і аопяшня блыі парівльмыні. А наш мзог упрысмые тсэкт парвіьлна. Бычаце, які рузанмы ваш мозг! Спактачу вам было цжяка чыцать гтэы ткэст, але цепяр гтэа зуісм не выліккае скдалансцяяў. Порста чаўарнцівта!

***

Некаторыя карыстальнікі сацыяльных сетак з усіх сіл стараюцца заставацца таямнічымі, але атрымліваецца не ва ўсіх: "Імя: Вольга. Прозвішча: інфармацыя схаваная. Дата нараджэння: інфармацыя схаваная. E-mail: olgagancharl991@yandex.by."

***

Сумоўе.
– Назавіце вашы моцныя бакі.
– Настойлівасць.
– Дзякуй, мы вам пазней патэлефануем.
– А я тут пачакаю.

***

– Каханая, я не магу знайсці шэры гальштук. Куды ты зноў перасунула шафу?

***

Праліў каву на дакументы. Цяпер пашпарт увесь у разводах.

***

– Апішы нашы адносіны ў двух словах.
– Нашы – што?

***

Ноччу нерэальна прыгожа. Не відаць толькі нічога.





● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як правільна сварыцца мужу і жонцы?

**Вікторыя Мілюк, у дэкрэтным адпачынку:**
– Ёсць добрая фраза: галоўнае своечасова закрыць рот. Трэба ўмець спыніцца, каб не нагаварыць лішняга і пасля не шкадаваць.



**Надзея, у дэкрэтным адпачынку, і Сяргей, электрамеханік, Евароўскія:**
– У нас пакуль не даходзіла да сварак. Але калі такое здараецца, трэба ўмець дараваць і саступаць. Часам трэба пагадзіцца з каханым. І ў час сваркі "не заходзіць за буйкі".



**Уладзімір Піліпавец, навучэнец:**
– Лепш не сварыцца. А калі ўжо сварка атрымалася, трэба хутчэй мірыцца. Крокі да прымірэння павінны рабіць і муж, і жонка.



**Анжаліка Саломка, навучэнка:**
– Лепш не высвятляць адносіны, калі ты вельмі злосны. Трэба пачакаць, калі эмоцыі сцішацца. Тады разбірацца.



**Андрэй Белкін, работнік гандлю:**
– Трэба заўсёды выслухаць жонку. Яна ж жанчына. А жанчынам трэба саступаць.



**Анастасія Чарняўская, у дэкрэтным адпачынку:**
– Вядома, лепш не сварыцца ўвогуле. А калі ўжо сварыцца, то сачыць за тым, што кажаш. Бо муж і жонка ўсё роўна памірацца. А словы, сказаныя ў злосці, надоўга запомняцца.



**Іван Ждановіч, чыгуначнік:**
– Трэба умець саступаць. Не адстойваць свае пазіцыі да апошняга. Вядома, у пачатку сямейнага жыцця заўсёды хочацца даказаць сваё. Але трэба думаць пра вынік.



**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№37 (1115) 9.09.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 876. Падпісана ў друк у 9.00 8.09.2016.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E-mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.